—Людзьмі звацца!
Янка Купала

ГАЗЕТА ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ БЕЛАРУСІ

ЛіМ

ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА

ПЯТНІЦА
11
КАСТРЫЧНІКА
1991 г.
№ 41 (3607)
ВЫХОДЗІЦЬ
з 1932 г.
КОШТ — 15 кап.
(Па падпісцы — 10 кап.)







У час рэпрэзентацыі (справа—налева): Пэрэс дэ КУЭЛЬЕР, Аляксандр КІШЧАНКА, Генадзь БУРАЎКІН.

# Рэпрэзентацыя ў Нью-Йорку

Кожная краіна-сябра ААН прадстаўлена ў гэтай міжнароднай арганізацыі не толькі сваім сцягам і гербам, але і своеасаблівым мастацкім сімвалам. У будынку Арганізацыі Аб'яднаных Нацый ёсць нават спецыяльны музей дарункаў. Гэта, па сутнасці, галерэя мастацтва другой паловы XX стагоддзя. Сярод экспанатаў музея нямала твораў, вартых называцца шэдэўрамі.

Тое, што да нядаўняга часу мастацкі сімвал нашай рэспублікі ў ААН адсутнічаў, нікога не можа здзіўляць. Бо якая палітыка, такое і прадстаўніцтва. Калі толькі і быў клопат, што раўняцца на «старэйшага брата», дык уласнае аблічча—рэч непатрэбная.

19 верасня, у той дзень, калі парламент рэспублікі ўзаконіў бел-чырвона-белы сцяг і герб «Пагоня», у Нью-Йорку адбылася рэпрэзентацыя дарунка Беларусі міжнароднай супольнасці. Лічу гэтае супадзенне невыпадковым і глыбока сімвалічным. Габелену «Чарнобыль» мастака Аляксандра Кішчанкі адведзена пачэснае месца ў зале пасяджэнняў Сакратарыята ААН. На ўрачыстай цырымоніі, дзе, акрамя беларускай дэлегацыі, прысутнічалі прадстаўнікі шэрагу краін, шматлікая прэса, з заявай выступіў Генеральны сакратар ААН спадар Пэрэс дэ Куэльер. «Я ўпэўнены,—сказаў ён,—што ўсе, хто бачыў гэты габелен, задумаюцца над небяспекай ядзерных катастроф, таксама як і тыя людзі, што маюць магчымасць бачыць іншыя прадстаўленыя ў Арганізацыі Аб'яднаных Нацый палотны — як «Герніка» П. Пікасо,—творы, што выкрываюць жах вайны. Гэты габелен будзе вечным напамінам тут, у Арганізацыі Аб'яднаных Нацый, пра тое, што мы павінны зрабіць усё ад нас залежнае для гарантыі, што трагедыя, падобная чарнобыльскай, не паўторыцца зноў».

В. БОГУШ.



Габелен «Чарнобыль» — дарунак Беларусі Арганізацыі Аб'яднаных Нацый.

# Беларусь — Польшча: НОВЫЯ СТАСУНКІ

**У чацвер пачаўся візіт афіцыйнай дэлегацыі Рэспублікі Беларусь у Рэспубліку Польшча. Дэкларацыя аб супрацоўніцтве і ўзаемаразуменні, якая павінна быць падпісана ў ходзе візіту, стане, па сутнасці, першым міждзяржаўным дакументам, прынятым суверэннай Беларуссю. Незалежнасць нашай рэспублікі, дарэчы, першай вітала Варшава.**

**Напярэдадні гэтага важнага візіту на чале з прэм'ер-міністрам Беларусі В. Кебічам адбылася прэс-канферэнцыя, у якой прынялі ўдзел члены дэлегацыі — старшыня Дзяржкамітэта рэспублікі па знешнеэканамічных сувязях У. Радкевіч і намеснік міністра замежных спраў Беларусі У. Сянько.**

**У. Радкевіч, характарызуючы эканамічныя стасункі паміж нашымі рэспублікамі, называў нямала лічбаў. У прыватнасці, абарот тавараў, якія летась склаў 108 мільёнаў інвалютных рублёў, за восем месяцаў гэтага года ўжо перавысіў 125 мільёнаў. Польшча пастаўляе нам разнастайнае абсталяванне (у прыватнасці — для АТС), будматэрыялы, медыкаменты, сельгаспрадукцыю і г. д. Наша рэспубліка экспартуе ў Польшчу шыны, халадзільнікі, дываны, самыя розныя іншыя тавары шырокага ўжытку. Развіваецца прадпрымальніцтва. Са 160 СП, зарэгістраваных дзяржкамітэтам у рэспубліцы, 65 — беларуска - польскія. Але пагадненне аб гандлёва-эканамічным супрацоўніцтве паміж нашымі дзяржавамі павінна закласці аснову для больш інтэнсіўнага развіцця ўзаемавыгадных стасункаў. У прыватнасці, магчыма стварэнне Беларуска-польскага гандлёвага дома, што адкрыла б шлях для бяспошліннага правозу тавараў цераз граніцу і продажу іх за нацыянальныя валюты. Але тут пакуль існуе складаная праблема цэн.**

**Што датычыць чэргаў на нашай граніцы з Польшчай, мяркуецца ў бліжэйшыя месяцы адкрыць новыя кантрольна-прапускныя пункты ў Дамачове і Бераставіцы, што безумоўна паспрыяе іх скарачэнню.**

**Плануецца адкрыць дадатковыя чыгуначныя пасажырскія маршруты: Познань — Брэст — Познань, Мінск — Варшава — Мінск, Беласток — Мінск — Беласток і інш.**

**Намеснік міністра замежных спраў Беларусі У. Сянько звярнуў асаблівую ўвагу на Дэкларацыю аб супрацоўніцтве і ўзаемаразуменні паміж Беларуссю і Польшчай, на тыя яе пункты, што прадугледжваюць адмаўленне абедзвюх рэспублік ад тэрытарыяльных прэтэнзій, прызнанне культурнай, этнічнай і моўнай самабытнасці нацыянальных меншасцяў.**

**Развіццё міждзяржаўных адносін паміж нашымі краінамі патрабуе адкрыцця пасольстваў у Мінску і Варшаве, гандлёвых прадстаўніцтваў, інфармацыйна-культурных цэнтраў у сталіцах рэспублік.**

**НАШ КАР.**

ХРОНІКА АДРАДЖЭННЯ

# ВЯРТАЕМ СКАЎТЫЗМ

Вось ужо 84 гады дзейнічае дзіцячы скаўцкі рух, што зарадзіўся на пачатку ў Англіі. Ён не прадстаўляе якую-небудзь палітычную партыю або арганізацыю, у сваіх шэрагах налічвае 16 мільёнаў сяброў больш чым са 150-ці краін і тэрыторый свету. На рахунку ў яго шмат карысных і цікавых спраў. Ужо два гады, напрыклад, «дзеці Чарнобыля» адпачывалі ў скаўцкіх летніках і ў сем'ях замежных равеснікаў.

Традыцыйна скаўтынг трымаецца на трох асноўных прынцыпах: Бог і Бацькаўшчына, добры ўчынак, скаўцкае права і ставіць мэтай духоўнае, інтэлектуальнае, грамадскае, фізічнае развіццё асобы, аб'ядноўваючы дзяцей самых розных інтарэсаў і схільнасцей.

Скаўцкія арганізацыі ў Расіі існавалі да 1919 года, калі былі распушчаны як «буржуазныя» другім з'ездам камсамола. Беларускія скаўты існавалі ў Заходняй Беларусі, якая была пад уладай Польшчы, і пасля другой сусветнай вайны — на чужыне.

Прыспеў час адрадзіць у суверэннай Беларусі скаўтызм, які развіваўся на нацыянальнай аснове, і зарэгістраваць нацыянальную скаўцкую арганізацыю ў штаб-кватэры Сусветнага Скаўцкага Бюро ў Жэневе. Дзеля гэтага неабходна згуртавацца ўсім разрозненым «саюзам», «асацыяцыям», «харугвам», «сябрынам» і «атрадам» у Беларусі і за яе межамі і правесці Устаноўчы Вальны Сойм. Для яго арганізацыі 17 верасня створаны ў Менску камітэт з ліку навукоўцаў, работнікаў народнай адукацыі, бацькоў, кіраўнікоў скаўцкіх фарміраванняў.

**Аргкамітэт просіць куратараў наваствораных сябрын паведаміць аб сабе ў абласныя аргкамітэты (калі ёсць) або непасрэдна старшыні Алесю Лозку ці сакратару рэспубліканскага камітэта Лідзіі Кулажанка (220072, г. Мінск, Ленінскі пр., 66, Скарынаўскі цэнтр, п. 429; тэл. 39-55-91, хатні сакратара — 58-92-42).**

# ІСПАНСКУЮ ЛІТАРАТУРУ — ПА-БЕЛАРУСКУ: АКАЗВАЕЦЦА, МОЖНА...

Як гром сярод яснага неба — менавіта такую рэакцыю выклікала на 2 курсе факультэта журналістыкі выкладанне іспанскай літаратуры XVII ст. на... беларускай мове. І гэта ў час, калі ва універсітэце нават гісторыя Беларусі, не кажучы ўжо пра іншыя прадметы, і тая падаецца па-расейску. Закон аб мовах у Беларусі фармальна дзейнічае даўно, але ж... закон што дышла — як павернеш, так і выйшла. І варочаць, балазе, ёсць каму. Таму ў нечым рызыкоўны крок выкладчыка варты толькі ўхвалы. Асабліва, калі згадаць пра абсалютную адсутнасць дапаможнікаў, літаратуры, пісанай па-беларуску, па курсу сусветнай літаратуры, калі сказаць, што выкладчык В. НЕБЫШЫНЕЦ ні ў школе, ні, натуральна, пасля (у адным з маскоўскіх ВНУ) беларускую мову не вывучаў. Але, тым не менш, ён, адзін з нямногіх, выкладае, і прытым даволі-такі няблага, свой прадмет па-беларуску. Ён дазвання разбурае міф, асабліва пашыраны ў выкладчыцкім асяродку, што без належнай літаратуры на нацыянальнай мове выкладаць па-беларуску нельга. Аказваецца, можна: варта толькі захацець...

Хочацца спадзявацца, што менавіта з дапамогай такіх руплівцаў беларуская мова вернецца ў сцены нашых ВНУ і стане тут роднай...

**Ю. ДУБІНА,**
**студэнт факультэта журналістыкі.**

З ПОШТЫ ТЫДНЯ

# КОЛЬКІ МОЖНА ВЫХОЎВАЦЬ НАС РАСЕЙЦАМІ?

Вымусіла сесці за ліст да вас нядаўняе «Заявление пресс-секретаря президента РСФСР», дзе зусім недвухсэнсоўна гаворыцца, што «...РСФСР оставляет за собой право поставить вопрос о пересмотре границ». Перакананы, што перш за ўсё гэта тычыцца нас, Беларусі. З намі звыкліся не лічыцца, і гэта абражае болей за ўсё. Да Прыбалтыкі прэтэнзій у РСФСР няма, і гэта зразумела, бо і Эстонія, і Латвія, і Летува маюць гонар і могуць пастаяць за сябе. Свядомасць прыбалтаў трымаецца на вельмі трывалых гістарычна-нацыянальных каранях. А што мае Беларусь? Толькі законы, якія ніхто не выконвае? Маю на ўвазе Закон аб мовах. Маю на ўвазе і тое, што дагэтуль не бачыў ні на адной установе бел-чырвона-белага сцяга ды «Пагоні». Маю на ўвазе і тое, што мы, у найвялікшай сваёй большасці, ведаем Пятра І і нават не здагадваемся аб існаванні Аўгуста ІІ, які жыў у той самы гістарычны час і з'яўляўся нашым законным князем. Мы любім і лічым сваімі паэтамі Пушкіна ды Лермантава, нават не чуўшы нічога пра Я. Баршчэўскага ды Я. Чачота. Мы захапляемся краявідамі навакольных палацава-паркавых комплексаў Пецярбурга, ганарымся, што маем гэтую прыгажосць у спадчыну, нават не ўяўляючы, што ў адначассе з расейскімі палацамі на Беларусі існавалі ці не прыгажэйшыя Гальшанскі ды Нясвіжскі, Мірскі ды Гарадзенскі палацы ды замкі.

Усё гэта знішчана, як і наша памяць. Давайце прыгадаем нашыя краязнаўчыя музеі, дзе зала, прысвечаная гісторыі ад жалезнага часу да 1917 г., займае чвэрць усёй плошчы. А што ж у гэтай зале (на прыкладзе Койданаўскага (Дзяржынскага) музея)? Расейскія манеты, расейскія кнігі, чалабітная расейскаму цару... Няўжо ж не ўваходзіла Койданава ў склад Вялікага княства Літоўскага? Не, амаль 500 год было ў ім. Дык што ж — гэты час выкрасліць? Няма ў тым музеі і напамінку пра нацыянальныя герб ды сцяг, як і ва ўсіх астатніх (выключаючы, мусіць, адзінкі) на Беларусі.

Як былі ў нас усе вуліцы ды розныя ўстановы ў гонар вядомых расейцаў названыя (Пушкін, Лермантаў, Сувораў, Горкі, Гогаль і гэты спіс можна бясконца доўжыць), гэтак і засталіся. Як выходзілі ў нас шматлікія дзяржаўныя газеты ды часопісы па-расейску, гэтак і выходзяць. Як вучыліся нашыя дзеткі па-расейску, гэтак і вучацца. Як стаяла ў крамах ды бібліятэках сем восьмых фонду на расейскай мове, гэтак і стаіць. (Калі ўзяць выданні таго ж самага «Эрыдана», дык іх літаральна расхопліваюць. Няўжо ж нельга друкаваць хай спажывецкія, але тыя, якія не затрымліваюцца ў продажу, кнігі па-беларуску?). Як пісалі раней у газетах узнёслай мовай пра сустрэчу якога-небудзь партыйца з якім-небудзь камсамольцам, гэтак і пішуць пра сустрэчу манархістаў з «Белой Руси» немаведама з кім («7 дней», напрыклад). Як былі насычанымі кааператыўныя паліцы ўсемагчымымі кніжыцамі пра Расейскую імперыю цароў-імператараў Раманавых ды пра іх набліжаных Пацёмкіна, Тараканаву і г. д., календарамі з рускімі краявідамі («Русскими земледельческими календарями»), гэтак і насычаныя, быццам не было на нашай зямлі сваіх манархічных асоб ды арыстакратаў не менш вядомых (Радзівілы, Сапегі і г. д.). Як паганілі нашыя шляхі ды вуліцы шыльды накшталт: «Книги — кнігі», «Москва — Масква», гэтак і паганяць. Як не лічыўся ніхто з беларусамі грэка-каталікамі, гэтак і не лічыцца (дастаткова згадаць перадачу Кацярынінскай царквы ў Менску праваслаўнай царкве).

Такіх параўнанняў можна прыводзіць яшчэ не на адзін аркуш. Дык колькі ж можна выхоўваць нас расейцамі? Мне ўсе гэтыя параўнанні ўяўляюцца хай незалежнымі адзін ад другога фактамі, але ўсё ж яны ўтвараюць фронт наступу на Беларусь расейшчыны, і згаданае ўжо «Заявление...» з'яўляецца першым крокам да ўтварэння ўжо не фронту, а дзеючай калоны, калі не паўстануць перад гэтымі фактамі не папяровыя, а тыя, якія спрацоўваюць, законы.

Даруйце, калі ласка, за не зусім вытрыманы тон, але, паверце, сорамна, балюча і немагчыма пачуваць сябе насуперак сваёй волі ды годнасці расейцам у «Северо-Западном крае», а не беларусам, ліцьвінам на сваёй Бацькаўшчыне.

**З. МАЛЬЧЭЎСКІ.**
г. Койданава.

# СВЕТЛАЕ І СВЯТОЕ МЕСЦА

Сёння, калі Беларусь ужо стала ў пэўнай ступені незалежнай, калі народу вернуты гістарычныя сімвалы, паўстаюць шматлікія пытанні і аб вяртанні гістарычных назваў гарадам, пасёлкам, вуліцам і г. д. Узнікла, вядома, і пытанне аб перайменаванні плошчы Леніна і Ленінскага праспекта, а заадно і аб дэмантажы помніка Леніну. На гэты конт дазвольце і мне выказаць сваё меркаванне.

На маю думку, помнік Леніну можна перанесці да Дома І з'езда РСДРП, і зрабіць гэты куток у сталіцы гістарычным месцам.

Сучасную ж плошчу Леніна, якая будзе называцца пляцам Незалежнасці, афарміць адпаведным чынам.

Прапаную: узвесці скульптуру — сімвал незалежнай Беларусі. Аздобіць пляц фантанамі, якія б упрыгожылі шэры гмах Дома ўрада. Разбіць шырокія алеі з клумбамі і насаджэннямі нізкарослых дрэў. Зняць усялякі транспарт, што праязджае міма Дома ўрада.

Пляц Незалежнасці павінен стаць светлым і святым месцам, куды б любы чалавек мог прыйсці адпачыць, паразважаць, палюбавацца тварэннем розуму і рук іншых людзей. І няхай над пляцам раніцай, на пачатку новага дня, гучыць новы гімн свабоднай, вольнай Беларусі.

Хацелася б, каб чытачы «ЛіМа» падзяліліся сваімі думкамі і прапановамі наконт гэтых пытанняў.

**І. ПАРХІМОВІЧ,**
**пенсіянерка.**
г. Мінск.

# ТРЭБА ПОМНІЦЬ

Крыўдна і балюча было пачуць па радыё, што ў Кіеве нейкімі мясцовымі нягоднікамі былі заліты фарбай магільныя пліты на Алеі славы, дзе пахаваны тысячы савецкіх салдат і афіцэраў, што загінулі пры вызваленні горада. Мала таго, на самым відным месцы начныя наведвальнікі фарбай зрабілі надпіс, што тут будзе ўзведзены помнік эсэсаўскай дывізіі «Галічына»...

У гады Айчыннай вайны мне давялося ваяваць у чырванасцяжным 472-м гаўбічным артпалку, што ўваходзіў у склад 50-й арміі, якой камандаваў генерал І. Болдзін. Мы ўдзельнічалі ў абароне Масквы і Тулы, вызвалялі ад фашыстаў Магілёў, Мінск, Гародню, іншыя гарады і вёскі Беларусі, з баямі дайшлі да Кёнігсберга.

У 1947 годзе Іван Васільевіч Болдзін узначальваў ваенную адміністрацыю ў нямецкім горадзе Веймары, дзе ў свой час жылі Гётэ, Шылер, Бах. Аднойчы, у адзін з летніх дзён, штаб Болдзіна наведала дэлегацыя веймарскіх жыхароў на чале з доктарам мастацтвазнаўства Куртам Зоненбергам, якая папрасіла вайскоўцаў дапамагчы аднавіць памяшканне мясцовага тэатра. Візіцёры, між іншым, расказалі генералу, што былі надзвычай усхваляваны, убачыўшы, як савецкія воіны ўскладаюць вянкі на магілы Гётэ і Шылера.

І вось цяпер мы чуем, што сям-там руйнуюцца ў нас, падкрэсліваю — **у нас**, помнікі салдатам, што загінулі, бараніачы Радзіму. Чалавек без памяці — што тое дрэва без каранёў. Будзем помніць, што мы, жывыя, у вялікім даўгу перад тымі, хто аддаў за нас сваё жыццё.

**І. ГАЛЕНЧЫК,**
**ветэран вайны і працы.**

# «УЛАДА НАМЕНКЛАТУРЫ ГРУНТУЕЦЦА НА... УЛАДЗЕ ПАРЛАМЕНЦКАЙ»,—

## лічыць трыццацігадовы рабочы з Магілёва Аляксандр РЫЛЬКОЎ.

Свой адказ на чарговае пытанне рэдакцыі «На чым, на вашу думку, грунтуецца ўлада былой наменклатуры і што можа зрабіць кожны свядомы чалавек на месцы, каб дэмакратычныя пераўтварэнні адбыліся і там?» наш чытач далей сфармуляваў так:

«Каб зрабіць такую выснову, далёка, як кажуць, хадзіць не трэба. Дастаткова ў час чарговай або нечарговай сесіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь уключыць тэлевізар. І што мы там бачым? А бачым мы, як два дзесяткі апазіцыянераў-дэмакратаў змагаюцца з так званай былой наменклатурай. Аказваецца, яна, гэтая наменклатура, як уладарыла, так і ўладарыць, трымаючы ў сваіх руках фінансавыя сродкі, матэрыяльныя рэсурсы, знешнеэканамічныя сувязі, словам, усё тое, што дазваляе дыктаваць свае ўмовы. Да таго ж яна, гэтая наменклатурная ўлада, надзелена ўладай вышэйшай, уладай парламенцкай! І такіх «власть имущих» у парламенце — большасць. Пакуль гэты адыёзны «спрут» там кіруе, усе перспектыўныя для рэспублікі прапановы будуць замарожаны. Памятаеце, як не прайшла прапанова аб рэферэндуме па камуністычнай маёмасці і па новых выбарах у парламент? Якое супраціўленне! Я лічу, што выбіць глебу з-пад ног наменклатуршчыкаў можна толькі шляхам перавыбараў сённяшніх дэпутатаў, тых, каго ў свой час нам падкінула партыйная вярхушка...»

**Сяргей ВАСІЛЕНКА**, дзесяцікласнік мінскай СШ № 11, 17 гадоў:

«Як мне здаецца, улада грунтуецца на кволым дэмакратычным руху, на слабай інфармаванасці тамтэйшага насельніцтва, я маю на ўвазе жыхароў невялікіх пасёлкаў, вёсак, ды і райцэнтраў. Упэўнены, што толькі стварэнне груп падтрымкі Беларускага народнага фронту, мэтанакіраваныя грамадзянскія акцыі, незалежная прэса ў правінцыі можа зварухнуць інертнасць яе насельнікаў».

(Тэлефонная размова з Сяргеем была нядоўгай, але кантакт з гэтым юнаком пасапраўднаму задаволіў. І не толькі тым, што дзесяцікласнік, які адным з першых патэлефанаваў у «Нашу раду», разважае наконт складаных і балючых працэсаў у нашым жыцці. Задаволіла яшчэ і тое, што Сяргей гутарыў з намі на чысцюткай матчынай мове. Гэта ўжо — парасткі беларусізацыі?).

**Анатоль КАСАРЭВІЧ**, апаратчык ВА «Палімір», дэпутат гарсавета, г. Наваполацк, 40 гадоў:

«Што дапамагае наменклатуры і сёння ўтрымліваць уладу? Назаву толькі некалькі фактараў: беларусы выступаюць супраць беларусізацыі; маўчанне інтэлігенцыі — разумовага патэнцыялу нацыі; інфармацыйны голад. А яшчэ жах, які апанаваў забітых людзей. Яны, людзі нашы, усведамляюць, што пасля жнівеньскага путчу наменклатуршчыкі толькі прыхаваліся, але ўсё роўна «вершат» лёс народа. Паспрабавалі ж на апошняй сесіі закрануць пытанне пра камуністычную партыю. Яно, вядома, не прайшло. А значыць і сёння існуе тэлефоннае права, закамуфляванае дэпутацкімі пасведчаннямі. А як не жахнуцца пасля такога факта? На днях да мяне трапіла папка з гаркома партыі. У ёй — толькі маленькая частка сапраўдных... даносаў на людзей. Пісалі іх сакратары пярвічных партыйных арганізацый. Пісалі даносы на ўдзельнікаў першага нашага экалагічнага мітынгу, называючы не толькі прозвішчы, іншыя анкетныя дадзеныя, але і хатні адрас, ды яшчэ і дадаючы характарыстыку на кожнага. Дык што гэта, партыя ў ролі палітычнай ахранкі? Так. І калі раней мы пра гэта маглі толькі здагадвацца, дык цяпер маем дакументы. Наступны факт, падмацаваны таксама папкай з дакументамі. У 88-м годзе ў Наваполацку адбываліся выбары ў гарсавет. Старшыня выбарчай камісіі падае партакратам справаздачу, дзе ўказвае, колькі людзей прагаласавала. Тых, хто адмовіўся галасаваць, занеслі ў асобны спіс. І зноў жа — называюцца хатнія адрасы... Думаю, трэба праз друк абнародаваць гэтыя брудныя справы былой наменклатуры, якая і сёння захавала сваю братэрскую суполку і такім чынам не здае пазіцый».

**Вікторыя ТАРАСЕВІЧ**, філолаг, г. Гродна, 55 гадоў:

«Што казаць, наменклатурны клан у нас з'яўляецца ўплывовай буржуазіяй, якая мае грошы, кіруе буйнымі прадпрыемствамі, кааператывамі. Але пакуль не будзе нацыянальнай буржуазіі, не адбудзецца і беларусізацыі, не будзе і вольнай Рэспублікі Беларусь... Возьмем хоць бы такі аспект дзейнасці нашай наменклатуры. Беларускае тэлебачанне. У час жалобнай паніхіды па ахвярах жнівеньскага путчу па нашай праграме пусцілі ў эфір нейкую камедыю, праз сорак дзён пасля гібелі тых, хто кінуўся пад танкі ў імя нашай з вамі свабоды, Масква транслюе жалобны канцэрт. А што ў нас? Цяжка паверыць, але зноў — камедыя. Якім словам гэта можна назваць, як вытлумачыць?! Толькі так: наменклатура не спіць у шапку, а дзейнічае, прымяняючы ўладу пасады. Мяне асабіста абурыў і нядаўні «Крок», які мае ўплыў на маладзёжную аўдыторыю. І сапраўды так: «самоуничижение паче гордыни». А як інакш растлумачыць тое, што вядучы праграмы, які браў інтэрв'ю ў чалавека рускамоўнага, са шчырай ахвотай падпарадкаваўся субяседніку і працягваў гутарку па-руску? Дзе наш нацыянальны гонар, беларусы? Пакуль мы яго не будзем у сабе вырошчваць, улада ўплывовай буржуазіі будзе працвітаць».

**Юрый ВАШКЕВІЧ**, супрацоўнік Дзяржаўнага музея Беларусі, г. Мінск, 39 гадоў:

«Па-першае, не называў бы наменклатуру былой. Яна ёсць. І ўлада яе грунтуецца на грамадска - палітычна - гаспадарчай сістэме, якая выпрацоўвалася дзесяцігоддзямі. Гэтая сістэма ўтварыла мараль кругавой парукі: я дапамагаю табе, ты — мне, і не таму, што цябе вельмі люблю, а проста забяспечваю наменклатурнай сістэме бязбеднае існаванне. Такое, дарэчы, магчыма і пры змене ідэалогіі, бо не мяняюцца структуры ўлады, а галоўнае — людзі. І нам трэба ўсведамляць, што гэта ўлада — рэальная. Па-другое, чаму жыве ўлада наменклатуры. Пасіўнасць грамадскасці, якая ў выніку «чысткі мазгоў» за шмат дзесяцігоддзяў апынулася, вобразна кажучы, у стане «калектыўнай шызафрэніі». Людзі слаба арыентуюцца ў працэсах, якія адбываюцца. На Беларусі нацыянальны чыннік у выніку русіфікацыі прыглушаны. І трэцяе. Адсутнасць апрацаваных і абгрунтаваных праграм апазіцыі. А калі новае — невыразнае і незразумелае, то пераважае схільнасць трымацца старога, хоць і недасканалага, але знаёмага. Гэта і выкарыстоўвае наменклатура, якая выдатна валодае тэхнікай сваёй прапаганды і інфармацыі».

**Іосіф ЖУРКЕВІЧ**, матэматык-праграміст, 44 гады, г. Мінск:

«На чым грунтуецца ўлада былой наменклатуры? І чаму толькі былой? Пытанне сур'ёзнае і патрабуе спецыяльнага даследавання. Адно магу сцвярджаць, што масавае, павальнае гультайства, разбэшчанасць духоўную і фізічную, безадказнасць, кругавую паруку спарадзіла яна, наменклатура. Раней, калі ў вёсцы, напрыклад, жылі адзін ці два злодзеі, абібокі, то гэта асуджалася, каралася людзьмі. Сёння ж гэтае зло ўжо і не зло ніякае, а звычайная з'ява — «вынаходніцтва», якое можна залічыць на рахунак наменклатуры, калі за нішто можна атрымліваць зарплату. Калі ў душах людзей не адбудуцца змены, то не адбудуцца і дэмакратычныя пераўтварэнні ў краіне. Няма ў людзей веры ні ў Бога, ні ў чорта. Сённяшняе вяртанне да Бога мае толькі спажывецкі характар, а ў душы яго няма. Паразітаванне на існасці чалавечай адзяржаўлена. І гэтае зло,— бездухоўнасць,— як СНІД, як атамная вайна, навалілася на нас. Адсюль і казнакрадства, і рабаванне народнага дабра пад маскай прыватызацыі, але ўсё ў інтарэсах наменклатуры».

**Сяржук ШАЎЧЭНКА**, 28 гадоў, г. Наваполацк:

«На ваша пытанне мне хацелася б адказаць адным словам. Трэба быць свядомым. Калі на Беларусі будзе хоць па адным свядомым чалавеку на бюракрата, то я ўпэўнены, што дэмакратыя пераможа. У гэтым я пераканаўся на ўласным вопыце. Прыгадваюцца выбары ў Вярхоўны Савет БССР. Я тады жыў у Гомельскай вобласці. І па нашай акрузе адным з кандыдатаў у дэпутаты быў вылучаны Камай, які зараз сядзіць у Вярхоўным Савеце. Жыхары нашай акругі ведалі яго як аднаго з тых, хто хаваў вынікі аварыі на ЧАЭС, але ніхто адкрыта не выказаўся супраць, усе баяліся. І я вырашыў: калі я не скажу адкрыта праўду, то хто? Людзі гэтага толькі і чакалі, і пракацілі кандыдата. Праўда, потым Камай быў вылучаны па іншай акрузе і прайшоў там, бо не знайшлося чалавека, які б не прамаўчаў. Я не выхваляюся, але мне лягчэй стала дыхаць пасля таго, як яшчэ адзін з наменклатурных работнікаў не пралез тут, дзе жыву я. Я зразумеў, што ўсімі шляхамі трэба змагацца з бюракратамі, якім не патрэбна ні іх партыя, ні яе ідэалогія. Ім патрэбны ўлада і прывілеі. Вось чаму я лічу, што толькі свядомыя людзі перамогуць у барацьбе з камуністычнай наменклатурай. Не трэба слухаць розныя галасы ні справа ні злева, трэба быць самім сабой, чуць толькі свой «унутраны» голас, — голас сумлення, гонару за сваю Рэспубліку Беларусь».

**Наступнае пытанне, якое мы хочам прапанаваць нашым чытачам, можа падацца заўчасным — Вярхоўны Савет рэспублікі канчаткова не вырашыў лёсу КПБ. Тым не менш, пытанне існуе, і мы ставім яго:**

**«ЯК РАСПАРАДЗІЦЦА УЛАСНАСЦЮ КПБ-КПСС І ЯЕ ФІНАНСАВЫМІ СРОДКАМІ З НАЙБОЛЬШАЙ КАРЫСЦЮ ДЛЯ СУВЕРЭННАЙ БЕЛАРУСІ?»**

Сёння, 11 кастрычніка, а таксама ў панядзелак і аўторак 14 і 15 кастрычніка з 13 да 16 гадзін мы чакаем вашых адказаў па тэлефоне: 33-19-85.

**АДДЗЕЛ ПІСЬМАЎ І ГРАМАДСКАЙ ДУМКІ.**

АДРАДЖЭННЕ

# Памятае не толькі Вольса...

Вёска Бацэвічы, на жаль, пакуль што не ў слынным шэрагу такіх нашых вёсак, як Мікалаеўшчына, Вязынка, Глінішча, Саматэвічы. Праўда, у Бацэвічах ніхто з нашых славутых пісьменнікаў не нарадзіўся. Але адсюль родам чалавек, імя якога ў свой час называлася поруч з імёнамі Янкі Купалы і Якуба Коласа, чалавек, які стаяў ля вытокаў беларускай дзяржаўнасці.

Чалавек гэты — Аркадзь Антонавіч Смоліч. Першы ў нашай рэспубліцы прафесар геаграфіі, правадзейны сябар Інстытута беларускай культуры, пасля — акадэмік Акадэміі навук Беларусі. А ў дадатак — адзін з лідэраў Беларускай Сацыялістычнай Грамады, прымаў удзел у выданні газеты «Грамада», уваходзіў у склад урада Беларускай Народнай Рэспублікі. І — наканаванасць лёсу — адным з першых праходзіў у 1930 годзе па сфабрыкаванай апрычнікамі НКУС справе міфічнага «Саюза вызвалення Беларусі». Пасля суда апынуўся ў Пермскай, затым Омскай абласцях. Хоць быў рэабілітаваны яшчэ ў 1957 годзе, жонка і дочкі атрымалі адно скупое паведамленне: у 1943 годзе памёр у зняволенні ад хваробы міякарда.

Маўчалі энкэвэдзісты, абміналі імя А. Смоліча складальнікі аўтарытэтных даведнікаў.

Ды праўда ўсё ж перамагла. Сёлетні год у рэспубліцы ў пэўнай ступені стаў і годам А. Смоліча. У сувязі са 100-годдзем з дня нараджэння піянера беларускай геаграфіі ў многіх перыядычных выданнях з'явіліся артыкулы, прысвечаныя яго жыццю і творчасці, самаахвярнай адраджэнскай дзейнасці (пісалася пра А. Смоліча, як чытачы памятаюць, у «ЛіМе»).

З удзелам Геаграфічнага таварыства Рэспублікі Беларусь, а таксама таварыства «Бацькаўшчына» прайшлі ўрачыстасці і ў Бацэвічах, што цяпер знаходзяцца на тэрыторыі Клічаўскага раёна. Сюды прыехалі вядомыя навукоўцы, пісьменнікі, дочкі А. Смоліча, прадстаўнікі грамадскасці.

З хваляваннем ступілі яны на зямлю, на якой нарадзіўся ў сям'і вясковага псаломшчыка будучы вучоны, правёў самыя памятныя гады маленства. Любоў да геаграфіі ў А. Смоліча і пачалася з любові да Бацькаўшчыны, а гэтая прывязанасць, у сваю чаргу, свае першыя імпульсы атрымала ў Бацэвічах, у мясцінах, якія шчодра адораны проста боскай прыгажосцю... У мясцінах, дзе цякуць дзве рачулкі з харошымі, нерушавымі назвамі Несята і Вольса.

Выдаўцы ў 1919 годзе ў Вільні сваю «Геаграфію Беларусі» (пазней яна вытрымала яшчэ тры выданні), А. Смоліч упершыню глянуў на Бацькаўшчыну як на асобную краіну, расказаў пра Беларусь у яе этнаграфічных межах. Найперш гаварыў аб прыродзе, але не абышоў і пытанняў эканамічнага, культурнага жыцця, гісторыі, краязнаўства. Адным словам, атрымаўся падручнік, па якім можна было атрымаць не толькі пэўную сістэму ведаў, але і ўзяць урокі любові да Беларусі, да Радзімы.

На жаль, пакуль што ягонага (ці такога б) падручніка не маюць ні настаўнікі, ні вучні Бацэвіцкай сярэдняй школы. Многія з іх і імя свайго славутага земляка пачулі ці не ўпершыню. Тым большай была радасць далучэння да таго непаўторнага і аграмаднага свету, назва якому — А. Смоліч, пад час адкрыцця на будынку школы мемарыяльнай дошкі. У час выступленняў старшыні выканкома Бацэвіцкага сельсавета І. Барышчыка, дэкана геаграфічнага факультэта Белдзяржуніверсітэта Р. Жмойдзяка, А. Ліса, дацэнтаў БДУ імя У. І. Леніна С. Сідара, Д. Хрышчановіч, дачкі А. Смоліча Марыі Аркадзьеўны нагадвалася, што ўся дзейнасць і жыццё А. Смоліча былі падначалены адзінай мэце — Беларусь не павінна быць невядомым краем для саміх беларусаў. Ён глядзеў далёка наперад, жыў верай у Беларускую дзяржаву.

Гэтай веры А. Смолічу і не маглі даравацъ.

Пазбаўлены права і магчымасці працаваць на карысць Бацькаўшчыны, Аркадзь Антонавіч у Сібіры натхнёна пісаў кнігу пра... сібірскія лясы. На жаль, гэтая праца так і не ўбачыла свету, бо...

Тыя, што сабраліся ў Бацэвіцкім сельскім Доме культуры, змаглі патрымаць у руках распаўсюджаныя на ксераксе копіі адказу намесніка начальніка ўпраўлення КДБ па Цюменскай вобласці на запыт прэзідэнта Геаграфічнага таварыства В. Аношкі аб далейшым лёсе вучонага. «Почырк» дзейнасці энкэвэдзістаў знаёмы: «...па пастанове тройкі УНКУС Омскай вобласці ад 10.06.38 г. расстраляны 17.06.38 г. у Омскай турме. Месца яго пахавання невядома».

Пра Аркадзя Смоліча слова гаворыць Арсень Ліс.

Не дзіўна, што гаварыў на ўрачыстым пасяджэнні В. Аношка, доўгія гады імя А. Смоліча выкрэслівалася з нацыянальнай гісторыі. Выкрэслівалася яшчэ і таму, што на яго фоне вельмі ж непрыглядна выглядалі асобныя афіцыйныя гісторыкі і географы, пазбаўленыя звычайнага інтэлекту і пачуцця нацыянальнай годнасці. І віцэ-прэзідэнт Геаграфічнага таварыства Беларусі Б. Гурскі, і старшы навуковы супрацоўнік Інстытута гісторыі Акадэміі навук Беларусі А. Кароль, і сябра БСДГ, галоўны рэдактар газеты «Грамада» А. Сідарэвіч у сваіх выступленнях падкрэслівалі веліч навуковага і грамадзянскага подзвігу А. Смоліча, гаварылі пра яго як пра заснавальніка Беларускага краязнаўства, выдатнага дзяржаўнага і палітычнага дзеяча Беларусі.

...Яшчэ колькі гадоў назад пра А. Смоліча памяталі ў яго родных мясцінах нямногія. Цяпер мясцовыя краязнаўцы турбуюцца, каб вярнуць імя вядомага земляка з небыцця. Пра гэта пераконвае няхай пакуль што невялікая экспазіцыя ў Клічаўскім музеі, з якой пазнаёміліся ўдзельнікі пасяджэння.

Наперадзе ж яшчэ шмат работы. Чакае свайго перавыдання «Геаграфія Беларусі», просяцца на старонкі перыядычнага друку шмат якія публікацыі А. Смоліча (дарэчы, з асобнымі раздзеламі з «Геаграфіі Беларусі» пазнаёміў чытачоў летась у сваім чацвёртым нумары часопіс «Спадчына»). Ёсць неабходнасць парупіцца і аб запісе ўспамінаў людзей, якія ведалі Аркадзя Антонавіча, жылі і працавалі з ім поруч. Яны ж могуць нямала расказаць пра аднаго з самых выдатных нашых дзеячаў на ніве нацыянальнага Адраджэння.

**Уладзімір КРУК (фота), Алесь МАРЦІНОВІЧ,**
**спецыяльныя карэспандэнты «ЛіМа».**

ЧАС І МЫ

# Чаму ўсміхаўся беспрацоўны „першы“

СЁННЯ ў пэўнай часткі нашага грамадства пад уплывам паражэння хунты і ўвядзення ў дзеянне вядомых указаў пра дэпартызацыю і прыпыненне дзейнасці КПСС-КПБ узніклі, на маю думку, вельмі небяспечныя ілюзіі, што з камуністычнай дыктатурай назаўсёды пакончана.

Што гэта далёка не так, я паспрабую паказаць на прыкладзе Слаўгарада. Той, хто быў у нашым райцэнтры, ведае, што гэта па сутнасці звычайнае мястэчка, дзе лепшы адміністрацыйны будынак займае РК КПБ. (Пішу ў сучасным часе, бо гэты будынак яшчэ нікому не перададзены, а таму юрыдычна ён належыць райкому). У Слаўгарадзе крыху болей за 7 тысяч жыхароў. Ёсць неблагі Дом культуры. Дзякуючы айцу Міхаілу, народнаму дэпутату раённага Савета народных дэпутатаў, прыведзена ў парадак царква і тэрыторыя вакол яе.

Што адрознівае наша мястэчка ад іншых блізнят-райцэнтраў, — дык гэта тое, што Слаўгарад уваходзіць у лік шасці найбольш забруджаных радыенуклідамі гарадоў Беларусі. Афіцыйна па прынятай славутай сістэме «сярэдніх» паказчыкаў шчыльнасць забруджання Слаўгарада цэзіем-137 складае 11,2 кюры на км². Калі ж дадаць, што 6 вуліц маюць забруджанасць ад 15 кюры і вышэй, а на гэтых вуліцах ёсць сядзібы, дзе забруджанасць вышэй 40 кюры, то будзе зразумелым кошт гэтых «сярэдніх» паказчыкаў.

А ў астатнім гэта характэрная беларуская глыбінка. І ў гэтай глыбінцы жывуць сціплыя і, можа, таму — вельмі паслухмяныя людзі. Менавіта сюды і была накіравана ўвага партыйнага апарату пад час мінулых выбараў. Гэта яна — паслухмяная глыбінка — забяспечыла кіраўніцтву КПБ «пераважную большасць» у Вярхоўным Савеце нашай рэспублікі, у мясцовых Саветах.

**З таго часу ў Слаўгарадзе ў сэнсе грамадска-палітычнага жыцця пэўныя змены адбыліся. Нават была спроба ў пачатку гэтага года нешта змяніць, калі «ўзбунтаваўся» нечакана для партапаратчыкаў выконваючы абавязкі рэдактара раённай газеты А. Маліноўскі, аб чым на старонках «ЛіМа» расказваў Юрась Залоска ў артыкуле «Слаўгарадскі прэцэдэнт». Утварылася таксама суполка БНФ. Але, на жаль, пакуль што яна аб сабе гучна не заявіла і ў ёй няма адзінства і мэтанакіраванай праграмы.**

**У той жа час партыйныя структуры ў раёне, нягледзячы на тое, што пэўная частка камуністаў выйшла з партыі, цалкам захавалі свае пазіцыі. Да самага апошняга часу з райкома КПБ ішлі дырэктыўныя ўказанні кіраўнікам гаспадарак, як быццам нічога не змянілася ў краіне. На пачатку жніўня ў калгасе «Савецкая Беларусь», што ў вёсцы Ржаўка, адбыліся выбары новага старшыні. Вось як яны прайшлі. Прыязджае ў калгас першы сакратар РК КПБ Г. Краўчанка і збірае калгаснікаў на сход. Сабралася меней палавіны калгаснікаў. Не звяртаючы на гэта ўвагі, — сход быў не правамоцны, — партыйны сакратар даводзіць да ведама калгаснікаў наступнае: «Мы ў райкоме абмеркавалі, і я прапаную вам абраць старшынёй У. Давыдзенку. Усе вы яго добра ведаеце, бо ён працуе ў вас галоўным інжынерам». Нехта сказаў: «Сапраўды, мы яго добра ведаем, але я прапаную іншую кандыдатуру — Пагодзіна Віктара Цітавіча». У адказ пачулі: «У нас не мітынг. Хто за тое, каб старшынёй калгаса быў Давыдзенка?» Пачуўшы гэтае, усе *маладыя калгаснікі-механізатары паднялі*ся і пакінулі памяшканне. За У. Давыдзенку прагаласавала... 16 калгаснікаў з ліку канторскіх служачых і пенсіянераў.**

**З канторскімі ўсё ясна. Я ні ў чым не абвінавачваю і калгаснікаў-пенсіянераў: яны прагаласуюць хоць за самога, даруйце, *люцыпара, калі яго кандыдатуру пра*пануе начальства, бо яны, як ніхто, залежаць ад старшыні. Паспрабуй прагаласаваць супраць! Будзеш зімаваць у халоднай хаце, застануцца прысядзібныя соткі не засеяны, не атрымаеш сена для сваёй жывёлы. У такім становішчы калгасны пенсіянер вымушаны галасаваць так, як хочацца начальству.**

...Месяцы за два да падзей 19—21 жніўня ў Слаўгарадзе аб'явіўся лектар — кандыдат гістарычных навук з Магілёва. Паважаючы яго ўзрост, прозвішча не называю. На лекцыю запрасілі ветэранаў вайны і працы. Быў і я на гэтай лекцыі.

Аб чым жа гаварыў паважны кандыдат гістарычных навук, да чаго заклікаў ветэранаў? Можа, каб яны аддалі свой багаты жыццёвы вопыт справе сапраўднай перабудовы? Можа, навукова растлумачыў, хто прывёў краіну *да жахлівага стану?* Уся яго прамова была пранізана **нянавісцю** да «так званых дэмакратаў», асабіста да Б. Ельцына і М. Гарбачова, якія разбураюць КПСС — адзіную абаронцу працоўнага народа! Дасталося і «здраднікам, якія пакідаюць партыю». А ў канцы сваёй прамовы ён сказаў галоўнае: «У партыі яшчэ знойдуцца сілы, каб паказаць гэтым «дэмакратам», дзе іх месца. І яна ім пакажа!»

Потым гэты «вучоны» выступаў яшчэ раз. Яго, як і ў першым выпадку, суправаджалі супрацоўнікі райкома партыі.

Міжволі паўстае пытанне: можа, гэта выпадкова? Але сёння можна казаць, што не, невыпадкова. Гэта былі хаўруснікі, і кожны выконваў сваю спецыфічную ролю ў падрыхтоўцы дзяржаўнага антыканстытуцыйнага перавароту. Бо ўжо **19 жніўня** ад імя бюро Слаўгарадскага РК КПБ і райвыканкома пайшла ў адрас хунты прывітальная тэлеграма. Далей я павінен спасылацца на дакументы.

**Як толькі мне стала вядома пра гэтую тэлеграму, зрабіў дэпутацкі запыт на імя выконваючага абавязкі пракурора Слаўгарадскага раёна В. Бурноса. Вось што ён мне пісьмова адказаў (цытую тэкст на мове арыгінала): «Члену исполкома Славгородского городского Совета народных депутатов, народному депутату т. Шкирманкову Ф. В. Ваше письмо прокуратурой района рассмотрено. Сообщаю Вам, что телеграмма в адрес ГКЧП от имени участников партийно-хозяйственного актива и трудящихся Славгородского района от 21 августа 1991 года не передавалась конторой связи и в контору связи не поступала. Прокуратура района располагает све*дениями о передаче телеграммы поддержки* в адрес ГКЧП от 19.VIII. 91 г., однако она без подписи руководителей райсовета народных депутатов, его исполкома и райкома КПБ. Данный вопрос будет разрешен в период следствия».**

**А цяпер па парадку. Сапраўды, АД ІМЯ ПАРТЫЙНА - ГАСПАДАРЧАГА АКТЫВУ тэлеграмы не было. Але, перш чым накіраваць пракурору дэпутацкі запыт, я дакладна праверыў праз супрацоўнікаў райкома, ці адпавядаюць сапраўднасці чуткі пра тэлеграму (прозвішча гэтых людзей па вядомых прычынах не называю). Дык вось, яны пацвердзілі, што такая тэлеграма сапраўды была накіравана ад імя бюро РК КПБ і райвыканкома. З райкома яе аднеслі ў райвыканком, а райвыканком за свае грошы здаў яе на тэлеграф. І яна пайшла. Таму ў адказе пракурора бракуе дакладнасці. (Дарэчы, ёсць на тэлеграме і подпісы і пячатка, бо інакш тэлеграф не прыме тэлеграму ад установы).**

**Цяпер хачу дапоўніць адказ пракурора, чаму праз аддзяленне сувязі не перадавалася тэлеграма ад імя партыйна-гаспадарчага актыву раёна. Можа, яе ўвогуле не было? Была! А здарылася вось што. 21 жніўня зранку сабраўся партыйна-гаспадарчы актыў, і на ім першы сакратар РК КПБ Г. Краўчанка прапанаваў накіраваць прывітальную тэлеграму ў адрас ДКНС. І толькі двое з удзельнікаў актыву ўголас выказаліся, што не трэба гэтага рабіць, бо нешта з гэтым ДКНС не ўсё чыста. А ўсе астатнія ПАДТРЫМАЛІ прапанову партыйнага лідэра. І вырашылі тэкст яе надрукаваць у раённай газеце. Паколькі ж раённая газета набіраецца і друкуецца ў Магілёве, то тэкст тэлеграмы спачатку хуценька аднеслі ў рэдакцыю на рэдакцыйную перадаючую сістэму. Яе ўжо пачалі перадаваць, калі па радыё пачулі паведамленне аб тым, што дзяржаўныя злачынцы арыштаваны. І тэкст гэтай тэлеграмы знік, яго знішчылі.**

**Вось як яно было сапраўды.**

А першага верасня па ініцыятыве выканкома Слаўгарадскага гарсавета адбыўся агульнагарадскі мітынг у падтрымку курсу прэзідэнта краіны М. Гарбачова і прэзідэнта Расіі Б. Ельцына.

Па розных падліках у мітынгу прынялі ўдзел ад 700 да 1000 жыхароў Слаўгарада. Усім жадаючым была прадастаўлена магчымасць падысці да мікрафона і выказацца. Выступалі і «левыя» і «правыя».

Пра тэлеграму і пра партыйна-гаспадарчы актыў ужо было добра вядома. Таму аднадушна ў рэзалюцыі мітынгу яго ўдзельнікі патрабавалі: звальнення з пасады рэдактара В. Ігнатавай, адстаўкі выканкома райсавета і склікання нечарговай аб'яднанай сесіі раённага і гарадскога Саветаў народных дэпутатаў з правам удзелу ў сесіі дэпутатаў сельскіх Саветаў.

Але шматгадовы вопыт партыйнай бюракратыі спрацаваў і гэты раз. Нягледзячы на тое, што памяшканні райкома былі апячатаны і ўзяты пад ахову міліцыяй, гаспадары апячатаных кабінетаў адчувалі сябе нядрэнна. А чаму б і не? Усё гучней пасля першай разгубленасці пачалі гучаць галасы, што прыпыненне дзейнасці КПБ — гэта парушэнне закона, а значыць трэба перачакаць — і ўсё вернецца на сваё месца.

Таму і не пайшоў райвыканком і яго старшыня Л. Бубноў на скліканне нечарговай аб'яднанай сесіі. Але ж асобным пытаннем для абмеркавання на сесіі стаяла рэзалюцыя агульнагарадскога мітынгу. Было дазволена запрасіць на сесію 5-6 дэпутатаў гарсавета.

Сесія адбылася 6 верасня. Якія ж яе вынікі? **Ні адно** з патрабаванняў рэзалюцыі мітынгу, якое закранала тых ці іншых пасадавых асоб, не было задаволена. Пагадзіліся дэпутаты толькі з патрабаваннем зрабіць газету органам раённага Савета народных дэпутатаў і надрукаваць поўны тэкст рэзалюцыі мітынгу ў раённай газеце. Але і тут яны пайшлі на гэта не па голасу свайго сумлення, а толькі таму, што дзейнасць КПБ прыпынена Вярхоўным Саветам рэспублікі, і райком юрыдычна не існуе. Калі ж дайшлі да патрабавання зняць з пасады рэдактара газеты В. Ігнатаву і выказаць свой недавер выканкому райсавета, то дэпутаты на гэта згоды не далі.

Калі я выходзіў з памяшкання пасля заканчэння сесіі, міжволі звярнуў увагу на задаволены твар беспрацоўнага першага сакратара Слаўгарадскага РК КПБ. Ён усміхаўся. У яго былі ўсе падставы для добрага настрою: плённа папрацавалі райкомаўскія функцыянеры (на чале з ім) пад час мінулых выбараў. У дэпутаты прайшлі ўсе члены райкома, усе кіраўнікі гаспадарак раёна, і вось на гэтай сесіі яны пацвердзілі, што засталіся адданымі закліку свайго партыйнага лідэра, прагучаўшаму са старонак раённай газеты ў лютым гэтага года «Не здрадзіць перакананням». Дэпутаты-камуністы паводзілі сябе на гэтай сесіі так, быццам час спыніўся, і магутныя ветры перамен абышлі, не здолелі закрануць Слаўгарад.

Расказанае мною паказвае, што пакуль яшчэ архаічная камуністычная большасць здольна блакіраваць патрабаванні сваіх выбаршчыкаў у Саветах усіх узроўняў. Але бясспрэчна і тое, што час іх панавання адлічвае апошнія дні.

**Ф. ШКІРМАНКОЎ,**
**член выканкома Слаўгарадскага гарсавета, народны дэпутат.**

З ПОШТЫ «ЛіМа»

# НАПЕРАД, ДА ГІСТАРЫЧНАГА БЯСПАМЯЦТВА?

«Наперад, да перамогі камунізму!», «Наперад, да новых дасягненняў!» і г.д. Адкуль гэта ўсё? Вядома, з недалёкага мінулага. Так званая бальша*віцкая метадалогія* вырашэння праблем, дасягнення мэт.

Аднак і сёння гэтая метадалогія жывучая і немаведама калі сканае. Зусім нядаўна, 26 жніўня гэтага года, Л. Сухнат падпісала пастанову, у якой па-«партыйнаму» рэкамендавалася вырашыць праблему рэарганізацыі выкладання гуманітарных навук у ВНУ рэспублікі.

У якасці кіруючага быў узяты стары «партыйны» прынцып: усё або нішто. Што значыць для тэхнакратычнага кіраўніцтва ВНУ рэкамендацыя калегі аб пераводзе сацыяльна-палітычных навук на факультатыў? Перш за ўсё вельмі зручны момант для таго, каб у мэтах выратавання пэўнай колькасці ставак на тэхнічных кафедрах дэгуманізаваць навучальны працэс. Разлік тут просты: на вучоным савеце ў тэхнічнай ВНУ абсалютную колькасную перавагу маюць прадстаўнікі тэхнічных кафедраў, якія падтрымаюць гэты намер.

Заўважым, што ў навaспечанай пастанове ёсць пункт, у якім у неабавязковай форме прапануецца зрабіць акцэнт на вывучэнне гісторыі Беларусі. Звычайны бюракрат можа ўспрыняць гэты пункт такім чынам: замест палітычнай гісторыі ўвесці факультатыў па гісторыі Беларусі. Дарэчы, ён можа выйсці з дадзенай прапановай на вучоны савет ВНУ, «забіваючы» адразу двух зайцоў: з аднаго боку наш бюракрат будзе рабіць выгляд, што нібыта ўлічваецца неабходнасць вывучэння нацыянальнай гісторыі, з другога — задавальняць інтарэсы тэхнакратычнага лобі. Адным словам, і козы сытыя, і сена цэлае.

Хіба цяжка зразумець, што для нас сёння становішча факультатыву азначае пахаванне прадмета? Менавіта з вывучэн*ня нацыянальнай гісторыі* пачынаецца сапраўдная гуманітарная падрыхтоўка студэнтаў. Яны будуць жыць і працаваць на тэрыторыі Беларусі. Без ведання роднай гісторыі нельга зразумець, асэнсаваць ідэі незалежнасці, суверэнітэту рэспублікі. У сувязі з тым, што цяпер у грамадстве пануе бездухоўнасць, бескультур'е, амаральнасць, гістарычная адукацыя набывае ўсё большае значэнне.

Вядома, што пятая сесія Вярхоўнага Савета БССР надала статус канстытуцыйнага акта Дэкларацыі аб дзяржаўным суверэнітэце Беларусі. Адно з цэнтральных месц у гэтым дакуменце займае ідэя нацыянальна-культурнага адраджэння Бацькаўшчыны. Зразуме*ла, узнікае пытанне:* хто, акрамя будучых выпускнікоў ВНУ, стане сумленным, найбольш паслядоўным і найбольш падрыхтаваным носьбітам гэтай ідэі? Настаўнікі гісторыі і беларускай мовы і літаратуры, якія абавязкова вывучаюць у ВНУ гісторыю Беларусі, — гэта кропля ў моры.

Вось чаго не зразумелі *Сухнат і К°. Падпісаную* імі пастанову можна назваць так: «Наперад, да гістарычнага бяспамяцтва!»

Сувязь вывучэння гісторыі Беларусі з нацыянальна - дзяржаўнымі інтарэсамі рэспублікі відавочная. Таму я звяртаюся праз газету «Літаратура і мастацтва» да Камісіі Вярхоўнага Савета Беларускай ССР па адукацыі, культуры і захаванні гістарычнай спадчыны, дэмакратычнай апазіцыі ў беларускім парламенце з пажаданнем унесці на разгляд сесіі Вярхоўнага Савета рэспублікі наступны праект пастановы:

1. Неадкладна ўвесці абавязковае вывучэнне гісторыі Беларусі ва ўсіх ВНУ, размешчаных на яе тэрыторыі, у якасці самастойнага навучальнага курса.

2. У гэтых мэтах поўнасцю, без усялякіх абмежаванняў і выключэнняў выкарыстоўваць усю навучальную нагрузку, усе штаты, увесь расклад, усе экзамены і залікі, якія былі запланаваны на 1991/1992 навучальны год па курсу «Палітычная гісторыя».

3. Для прадухілення магчымай дыскрымінацыі прадмета «Гісторыя Беларусі» ў наступныя гады ўстанавіць, што ў гуманітарных і педагагічных ВНУ студэнты павінны вывучаць гэту дысцыпліну на працягу 170 гадзін, у тэхнічных— 120 гадзін.

Толькі такая канкрэтная пастанова вышэйшага органа ўлады можа спыніць вэнэускіх бюракратаў ад адукацыі. Час не чакае.

**М. СТРАЛЕЦ,**
**кандыдат гістарычных навук, старшы выкладчык кафедры гуманітарных дысцыплін Брэсцкага *політэхнічнага* інстытута.**

# Першая дысертацыя

## Пасляслоўе да юбілею

ЗДАЕЦЦА, толькі нядаўна ўвесь свет адзначаў 500 год з дня нараджэння вялікага беларускага асветніка Францішка Скарыны. Да гэтай даты ў нас і за мяжой выйшла нямала кніг аб яго жыцці і дзейнасці. У 1990 годзе з запланаванага не была апублікавана толькі адна кніга — доктарская дысертацыя І. С. Дварчаніна «Францішак Скарына як культурны дзеяч і гуманіст на беларускай ніве».

І вось, нарэшце, са спазненнем на адзін год гэта кніга выйшла ў выдавецтве «Навука і тэхніка». На што можна сказаць: лепш позна, чым ніколі.

Можна адзначыць без перабольшання, што сярод імён, якія складаюць гонар і славу беларускага народа, пачэснае месца займае імя Ігната Сымонавіча Дварчаніна. Чалавек шматбаковага таленту і выключнай эрудыцыі, ён быў таленавітым паэтам і перакладчыкам, літаратуразнаўцам і публіцыстам, педагогам і выдаўцом, культурнаасветным і грамадскім дзеячам.

Вельмі шкада, што да нядаўняга часу жыццё і дзейнасць яго былі амаль не даследаваны, калі не лічыць некалькіх газетных і часопісных артыкулаў. Тым больш прыемна было даведацца, што ў 1990 годзе выдавецтва Варшаўскага універсітэта апублікавала зборнік навуковых прац пад назвай «Ігнат Дварчанін, беларускі палітык і вучоны», якую напісалі дзеяч рэвалюцыйнага і нацыянальна-вызваленчага руху ў Заходняй Беларусі, гісторык і публіцыст Аляксандра Бергман, вядомы знаўца спраў нацыянальных меншасцей у Польшчы прафесар Ежы Тамашэўскі і загадчык кафедры беларускай філалогіі Варшаўскага універсітэта прафесар Аляксандр Баршчэўскі.

І. Дварчанін нарадзіўся 8 чэрвеня 1895 года ў вёсцы Погіры Дзятлаўскага раёна, што на Гродзеншчыне. Пасля Лютаўскай рэвалюцыі ён прыехаў з арміі ў прыфрантавы Мінск, прываблены ажыўленнем беларускага вызваленчага руху. Малады паручнік вёў патрыятычную прапаганду сярод салдат і быў абраны членам Усебеларускага кангрэса. Дварчанін уступіў у партыю беларускіх сацыялістаў-рэвалюцыянераў, бо ў яго разуменні яна востра ставіла праблему нацыянальнага адраджэння і сялянскае долі-нядолі. У сакавіку 1918 года 22-гадовага Ігната запрасілі ў Маскву на пасаду сакратара культурна-асветнага аддзела ў Беларускі нацыянальны камісарыят. Тут Дварчанін пачаў друкавацца ў газеце «Дзянніца».

Нягледзячы на маладосць, Ігнат меў за сваімі плячыма немалы жыццёвы вопыт — настаўніцкую адукацыю, тры гады работы ў школе, вайсковае вучылішча і вопыт франтавога афіцэра.

Пасля акупацыі Беларусі палякамі Дварчанін дабраўся з Масквы да родных мясцін, сустрэўся з раднёй і разгарнуў у Дзятлаве патрыятычна-асветную дзейнасць, за што быў зняволены польскімі вайсковымі ўладамі ў Беластоцкі канцлагер. Як піша У. Калеснік, калі ў гэтым спецлагеры разгулялася эпідэмія тыфу, Дварчанін уцёк у савецкі ўжо Мінск, дзе адкрыта выказаўся супраць перадзелаў Беларусі ваюючымі бакамі. Сябры параілі яму, пакуль не позна, падацца ў Вільню і заняцца адукацыяй. З восені 1920 да лета 1921 года Дварчанін быў вольным слухачом выпускнога класа Віленскай беларускай гімназіі, зарабляў на хлеб працай начнога вартаўніка. Пасля атрымання атэстата ён быў накіраваны Беларускай школьнай радай выкладаць родную мову і літаратуру на настаўніцкіх курсах у Дзвінску (Даўгаўпілсе). Восенню Ігнат Дварчанін выехаў у Чэхаславакію і паступіў на філасофскі факультэт Карлава універсітэта.

Пасля сканчэння Пражскага універсітэта і атрымання вучонай ступені філасофіі вяртаецца ў Вільню і выкладае літаратуру ў Беларускай гімназіі. працуе сакратаром Беларускага выдавецкага таварыства. Адначасова Дварчанін супрацоўнічае ў часопісе «Родныя гоні» і прагрэсіўных газетах. У сваіх паэтычных і публіцыстычных творах ён адстойваў рэалістычны стыль у літаратуры і грамадскім жыцці, абараняў сацыяльныя і нацыянальныя інтарэсы працоўных Заходняй Беларусі, выкрываў антынародную палітыку буржуазнай Польшчы.

У жніўні 1930 года яго арыштавалі і асудзілі на 8 год турэмнага зняволення. Праз два гады Дварчанін у ліку 40 польскіх палітычных вязняў быў абменены на палітзняволеных з СССР. У Мінску Ігнат Сымонавіч стаў працаваць у Камісіі па вывучэнні Заходняй Беларусі пры Беларускай Акадэміі навук. На вялікі жаль, гэта праца працягвалася нядоўга. У 1933 годзе Дварчанін разам з групай дзеячаў быў ізноў арыштаваны, на гэты раз работнікамі АДПУ, ужо як польскі шпіён, і быў расстраляны. Яму ішоў толькі 43-ці год.

А сваю доктарскую дысертацыю «Францішак Скарына як культурны дзеяч і гуманіст на беларускай ніве» І. С. Дварчанін абараніў у 31 год у сценах Карлава універсітэта. Яна з'яўляецца першым у беларускім літаратуразнаўстве даследаваннем аб Ф. Скарыне і выйшла ў нас у перакладзе з чэшскай мовы.

Вядомы даследчык кнігі і гісторыі кнігадрукавання Я. Неміроўскі ў сваёй кнізе «Па слядах Францыска Скарыны» (Мінск, 1990), ацэньваючы доктарскую дысертацыю І. Дварчаніна, падкрэслівае: «...па сутнасці, першая пасля П. У. Уладзімірава манаграфія, прысвечана вялікаму беларускаму асветніку. Гэта — тоўсты машынапісны том аб'ёмам у 300 старонак».

Паўстае пытанне: чым быў выкліканы выбар Дварчаніным тэмы доктарскай дысертацыі? Як бы адказваючы на гэта пытанне, беларускі даследчык В. Шалькевіч адзначае: «Гады вучобы Дварчаніна ва універсітэце супалі з падрыхтоўкай і святкаваннем 400-годдзя беларускага кнігадрукавання, якое шырока адзначалася ў многіх славянскіх краінах, у тым ліку і ў Чэхаславакіі, дзе былі выдадзены першыя беларускія кнігі. Гэта падзея паслужыла штуршком для вывучэння Дварчаніным дзейнасці і светапогляду Скарыны».

У. Калеснік у сваім артыкуле «Пражскі эпісталярый» («Полымя», 1990, № 9) піша так: «Дварчанін задумаў і напісаў не акадэмічную, а публіцыстычную працу з больш высокім, чым дапускалася па этыкеце, каэфіцыентам дыскусійнасці. Малады даследчык глянуў на Скарыну і яго справу вачыма ўдзельніка беларускага вызваленчага руху і пранікліва выявіў глыбінную пераклічку стымулаў, ідэалаў паводзін... Скарына ў разуменні Дварчаніна — гэта вялікі беларускі патрыёт, асветнік і дэмакрат, які жыў інтарэсамі народа і пакутаваў з-за таго, што меў смеласць апярэджваць свой час, зваць у будучыню землякоў, хоць многія з іх не разумелі яго. Дварчанін убачыў трыумф, але і адчуў трагізм вялікага чалавека, трагізм прадвесніцтва».

На маю думку, інтарэс Дварчаніна да Скарыны зарадзіўся яшчэ ў 1918 годзе, у час яго работы ў Белнацкоме. Праз тры гады, у 1921 годзе ў віленскай газеце «Беларускі звон» быў надрукаваны матэрыял Дварчаніна «З Чэшскага музея», у якім расказвалася пра Біблію Ф. Скарыны (1517) і кнігу П. Уладзімірава «Доктор Франциск Скорина» (1888), якія захоўваюцца ў музеі. У той жа час нельга не пагадзіцца з У. Калеснікам, які сцвярджае, што Дварчанін разглядаў свой твор як духоўны стымулятар адраджэння ў беларускім народзе загубленай нацыянальнай памяці.

Жывучы ў Празе, Дварчанін, натуральна, паспрабаваў адшукаць дакументы аб Скарыне ў мясцовых архівасховішчах. Але тут яго поспехі былі больш чым сціплымі. У метрычных кнігах Пражскага універсітэта за XV— першую палавіну XVI ст. Дварчанін выявіў спіскі студэнтаў, завяршыўшых адукацыю на факультэце свабодных мастацтваў. З гэтых спіскаў ён выдзеліў імёны 33 студэнтаў, якія паходзілі з Вялікага княства Літоўскага. Сярод іх Іван, Матвей і Пётр з Полацка, і, што асабліва цікава, Францыск з Літвы. На жаль, Дварчанін не ўказвае, калі іменна гэты Францыск вучыўся ў Празе. Таму цяжка сказаць, ці ідзе гаворка аб вялікім беларускім асветніку, ці аб нейкім іншым чалавеку.

Ва ўступе да сваёй дысертацыі даследчык адзначае: «Спробы знайсці якія-небудзь прыкметы з жыцця і дзейнасці Скарыны, паколькі ў значнай ступені яны звязаны з Прагай, у архівах Нацыянальнага музея, Міністэрства ўнутраных спраў, гарадскога музея... не далі жаданых вынікаў...

Зыходзячы з гэтага, падставай нашай працы будуць пасобныя даследаванні вучоных, якія мелі ў сваім карыстанні першакрыніцы...».

Вызначаючы мэты сваёй доктарскай дысертацыі, Дварчанін падкрэслівае, што ён хоча разгледзець дзейнасць Скарыны не толькі ў сувязі з культурным становішчам Айчыны, але і ў кантэксце з заходнееўрапейскім. Дысертацыя ставіць мэтай даследаваць светапогляд Скарыны, не засяроджваючыся на знешніх асаблівасцях яго прац, апісанні і параўнанні тэкстаў.

Такім чынам, заключае Дварчанін, тэма «Францыск Скарына як культурны дзеяч і гуманіст на беларускай ніве» дазволіць расказаць пра Скарыну як пра чалавека, пісьменніка, кнігадрукара, гуманіста ўвогуле і нацыянальнага дзеяча (месца яго ў сучасным грамадстве, уплыў і значэнне).

На мой погляд, адзін з самых цікавых раздзелаў дысертацыі Дварчаніна (усяго іх дзевяць)— «Стымулы дзейнасці Францішка Скарыны. Скарына як чалавек». Ён выдзяляе чатыры галоўныя моманты: матэрыяльны інтарэс, рэлігійнае падзвіжніцтва, дасягненні айчыннай культуры і ўплыў замежнай культуры. Наконт першага могуць узнікнуць пытанні. Аднак Ігнат Дварчанін правамерна лічыць, што матэрыяльныя інтарэсы для Скарыны не стаялі на апошнім месцы. Пра гэта сведчыць і тое, што свае кнігі ён друкаваў у памеры, зручным для продажу, а «Малую падарожную кніжку» наогул прызначыў для купцоў, якія адпраўляліся ў раз'езды.

Раздзел «Скарына як пісьменнік» таксама чытаецца з цікавасцю. Вучоны пытаецца: а ці можна наогул лічыць Скарыну пісьменнікам? І на падставе аналізу самасвядомасці Скарыны, яго свецкіх поглядаў, патрыятызму і дэмакратызму беларускага першадрукара, любві да роднай мовы станоўча адказвае на пастаўленае пытанне.

Можна смела гаварыць, што да І. Дварчаніна ніводзін вучоны так аргументавана не паказваў Скарыну як гуманіста.

Характарызуючы дзейнасць беларускага першадрукара, даследчык прыходзіць да вываду, што ён меў уплыў на цэлую культурную эпоху, пачатак якой быў пакладзены ў XVI стагоддзі. і не толькі на Беларусь і

# А ПАЭЗІЯ—НЕ ДАКЛЯРУЕ...

## Замест рэцэнзіі

Нарэшце Беларуская асацыяцыя дэтэктыўнага, прыгодніцкага і палітычнага рамана (БАДППР) выдала кніжку, якая апраўдвае першую літару гэтай абрэвіятуры,— беларускую.

Напэўна, Тацяна Сапач (Дубавец) яшчэ доўга не выйшла б пад грыфам «Мастацкая літаратура», бо пакуль што наогул у гэты інстытут кнігадрукавання па рангу, па сяброўству, па чарзе не звярталася. І правільна рабіла. Бо там можна вылучыцца з агульшчыны толькі аб'ёмам, фарматам, якасцю паперы, тыражом і колерам вокладкі... Часцей за ўсё. Праўда, бываюць і выключэнні з правілаў.

Вершы Сапач і ў перыядычным афіцыйным друку амаль не з'яўляліся. І, як ні дзіўна, ад гэтага нікому не было шкоды.

Але аўтарка ўсё ж жыла, нешта пісала і некалі ж павінна было ўзыграць яе творчае самалюбства.

БАДППР (чытай: Адамчыкі і Сіўчыкаў) таксама вымушаны былі даказаць справай сваю беларускасць і прыналежнасць да СП Беларусі, а таму, выдаўшы зборнік вершаў Тацяны Сапач «ВОСЕНЬ», не прагадалі, бо, відаць, да ўсяго іншага маюць добры нюх і на ўсё таленавітае.

Дзякуй хлопцам — я недаспаў дзве ночы...

І таму віною гэтая лёгкая, але не лёгкаважная, эмацыянальная, духоўна-эратычная кніжачка ветранай жанчыны, закаханай у паэзію і ў самую сябе.

У кніжцы ёсць наскрозь пустыя вершы, як здараюцца пустыя, неўпрыкмет пражытыя дні. Аднак і яны не псуюць настрою, не спрашчаюць думак, не гвалтуюць чысціні пачуццяў:

**О, час пераможных**
**шэсцьцяў —**
**крышацца брукі ад маршаў!**
**Як не вітаць гэту музыку**
**сусьветнае мітусьні!..**
**Пара апантанага плёну —**
**зьбірайцеся і зьбірайце!**
**Як не вітаць гэту музыку!..**
**— Мне больш даспадобы**
**дождж...**
**Складзены стрэлы Феба,**
**і зьвініць цяпер**
**беспатрэбная,**
**павуціны цяціва між дрэў...**
**Няхай не пакіне нас Восень!**

Перагортваючы старонкі паэтычнай кніжкі, прачытваеш падобныя вершы, як назовы станцый метро на кароткіх тлумных прыпынках, каб перавесці дых і чакаць той, дзе мусіш выйсці, каб агледзецца, усведаміць свой прыезд і зразумець, што гэта і ёсць тваё доўгачаканае выйсце з тлуму і пустой вандроўкі ў невядомае:

**Блукаю па вузкіх вулках**
**старога роднага места**
**(Чаму ты ня тут, не са мною,**
**вялікі крывіцкі род?) —**
**і кожны мой крок паўтарае**
**акорды жалобнай мэсы,**
**так, кожны мой крок,**
**асцярожны крок.**
**О, хваля харалу,**
**гатовая ўздыбіць дах,**
**і зьмесьці,**
**што помняць і славу, і здраду,**
**сьцены!..**
**З найлепшага цеста, мой Бог,**
**табою зьлеплены Бах.**
**Але, я прашу, гавары са мною**
**на мове Шапэна.**

**(«У Вільні»)**

Старонкі гэтай «восеньскай» кніжкі і сапраўды нагадваюць сашчэпленыя зжоўклыя лісты, але жылістыя і жывучыя памяццю лета і кволай спадзеўкай не быць канутымі ў Лету...

Усё лепшае ў паэтычным зборніку з эстэтычнага боку, але дарэшты не зразуметае ў філасофскім плане,— гэта лірычны герой, сама Тацяна Сапач, якая нічога нікому не трактуе, не змагаецца і не дакляруе, а, проста,— плача, смяецца, ненавідзіць здзекуецца, цешыцца з явы і нязбытнага. Магчыма, тут і ўвогуле няма жывога рэальнага героя, аб'екта. А ёсць суб'ект, уяўленні, летуценні... Ёсць сны, якія намагаюцца стаць явай.

А паэзія — што яна такое? Веданне ці спроба ўведаць, разгадка ці загадка? Ці, можа, паэзія — гэта вечная прага адраджэння чалавечнага ў чалавеку, пошук гарманічнага між духам і матэрыяй... Мяне цешыць, што апошняя выснова для аўтара з'яўляецца аксіёмай.

У невялічкім зборніку ажно пяць прысвячэнняў загадкаваму Савелію. Рэдкае на сённяшні дзень імя, хацелася напісаць, выміраючае ў народзе, але, перачытаўшы тыя вершы

Украіну, дзейнасць яго была заўважана і па-за іх межамі: і ў Маскоўскай Русі, і ў палякаў, славенцаў, балгар. Ён разглядае Скарыну як нейкае сувязное звяно славянскіх культур.

(Дарэчы, бібліяграфія друкаваных крыніц па тэме дысертацыі складае 190 назваў.)

Трэба адзначыць, што некаторыя вывады даследчыка, упершыню зробленыя ў дысертацыі, былі апублікаваны асобнымі артыкуламі. Так, у выданні «Родныя гоні» (Вільня, 1927, кн. 1) быў надрукаваны артыкул І. Дварчаніна «Аб годзе нараджэння Фр. Скарыны». У гэтай рабоце вучоны падтрымаў гіпотэзу М. Шчакаціхіна, паводле якой датай нараджэння Скарыны трэба лічыць 6 сакавіка 1486 года (у дысертацыі называюцца 80-я гады і 1487 г. — **Э. І.**).

Многім вядомы выраз: «Платон мне сябра, але ісціна даражэй». Калі прытрымлівацца гэтага прынцыпу, трэба прызнаць, што творчая спадчына І. С. Дварчаніна пачала вывучацца перш за мяжой, сярод даследчыкаў з ліку беларускай эміграцыі. Так, у другім нумары «Запісаў Беларускага інстытуту навукі і мастацтва» за 1953 год быў надрукаваны артыкул І. Дварчаніна «Беларусы на Праскім універсітэце ад ягоных закладзінаў да паловы XVI стагодзьдзья». Праз 14 год у дванаццатым нумары часопіса «Абежнік Беларускага Інстытута навукі і мастацтва» (Нью-Йорк)» быў апублікаваны матэрыял «Дысертацыя Ігната Дварчаніна пра Скарыну».

На заканчэнне — некалькі моўных заўваг.

Амаль усе савецкія даследчыкі, у тым ліку аўтары энцыклапедычнага даведніка «Францыск Скарына і яго час», перакладаюць назву доктарскай дысертацыі І. Дварчаніна на беларускую мову такім чынам: «Францішак Скарына як культурны дзеяч і гуманіст на беларускай **глебе»** (тут і ніжэй выдзелена мною.—**Э. І.**). Кніга ж, выдадзеная «Навукай і тэхнікай» у перакладзе Тамары Кароткай, носіць назву «Францішак Скарына як культурны дзеяч і гуманіст на беларускай **ніве»**. Ці маюць гэтыя розныя словы адзін і той жа сэнс?

Вядомы вучоны-скарыназнаўца Я. Л. Неміроўскі ў перакладзе з чэшскай мовы на рускую называе пяты раздзел дысертацыі Дварчаніна «Скорина в виленских **источниках**». У перакладзе гэта гучыць так: «Скарына ў віленскіх **творах**»...

Зразумела, сёння доктарская дысертацыя Дварчаніна ў нечым састарэла. Але без яе немагчыма аб'ектыўна вывучыць гісторыю скарыназнаўства ў нашай краіне і ва ўсім свеце.

**Эмануіл ІОФЕ.**

---

яшчэ і яшчэ, я з вялікім жахам даўмеўся, што Савелій — гэта я... Ты, ён, яна, мы... Жывыя і выжываючыя... Своеасаблівы сфінкс нашай нацыі.

Калі я трымаў упершыню ў руках гэтую зграбную кніжачку, на ёй значыўся наклад у 3000 асобнікаў, але яшчэ не быў пазначаны яе кошт. Цікава, колькі можа каштаваць сапраўдная паэзія?

Не ведаю кошту і зараз, калі дапісваю гэтыя радкі. Але раю пачытаць гэтую кніжку тым, хто любіць новую беларускую паэзію. Канешне, з усімі яе жаночымі праявамі і слабасцямі.

**Леанід ГАЛУБОВІЧ.**

**Ад рэдакцыі.** Мы не зусім зразумелі, што такое «новая» беларуская паэзія, бо і «старая» — ад Купалы — умела плакаць, смяяцца, «цешыцца з явы і нязбытнага», а не толькі праводзіць у свет таталітарныя ідэі да апяваць застой. Зрэшты, кожны мае права на сваю думку адносна той ці іншай паэтычнай з'явы. Толькі ці трэба змяшчаць аўтара ў суцэльны літаратурны вакуум, калі хочаш яго пахваліць?

---



# Нам пакінуў пісьменнік...

## Да 90-годдзя Віталя ВОЛЬСКАГА

Усе пасляваенныя гады быў я ў блізкіх адносінах з Віталем Фрыдрыхавічам Вольскім. Чалавек вялікай культуры, інтэлігентнасці і сціпласці, В. Вольскі быў для мяне, супрацоўніка апарату Саюза пісьменнікаў БССР, прыкладам і ўзорам камуніста і пісьменніка. З ім было лёгка і прыемна мець сувязь, як у надзённых справах нашай грамадска-творчай арганізацыі, так і ў звычайных чалавечых адносінах. Ён ніколі не высоўваў сваю асобу, не патрабаваў для сябе, як старэйшы, найбольшай, хоць і заслужанай павагі. Стала і натуральна ў ім жыло пачуванне роўнага паміж роўнымі, уважлівасць і пачцівасць да людзей.

Ціхай хадою, хоць і не вельмі часта, заходзіў Віталь Фрыдрыхавіч у Саюз пісьменнікаў. Але, як правіла, абавязкова па якой-небудзь справе, найбольш агульнага пісьменніцкага характару. І часта, што аніяк нельга не ўспомніць, В. Вольскі самым найлепшым чынам выконваў даручэнні кіраўніцтва СП БССР. То падрыхтуе які патрэбны матэрыял да чарговага з'езда ці пленума, то напіша заключэнне па якім прачытаным надрукаваным ці рукапісным творы. І рабілася Вольскім такое якасна, дасканала, у час. А галоўнае на высокім прафесійным узроўні. Так што кіраўніцтву саюза заставалася толькі дзякаваць за выкананне задання.

Патрабавальнасць да сябе, як асобы, патрабавальнасць у сваёй творчасці былі адметнай рысай характару пісьменніка Вольскага. Як мне здаецца, гэтая рыса чалавека-творцы праявілася вельмі ярка найперш у яго драматычнай творчасці. І што вельмі важна — у творах найперш для нашага малодшага ды і старэйшага пакалення. У выніку настойлівых намаганняў у вывучэнні казачнага багацця і фальклору беларускага народа ў творчасці Віталя Вольскага паяўляліся адна за адною п'есы. Мы сёння маем права назваць і «Цудоўную дудку», і «Несцерку», і «Машэку», і «Дзеда і жорава», як творы, якія займаюць трывалае і каштоўнае месца ў гісторыі нашай літаратуры, доўга будуць служыць эстэтычнаму выхаванню людзей.

Хацелася б тут толькі сказаць, што нашы тэатры, а я маю на ўвазе і дзяржаўныя і самадзейныя, народныя, не так часта да іх звяртаюцца. Думаю, гэткае павінна зыначыцца, бо творы Вольскага не сезонныя.

Патрабавальнасць да сябе, да сваёй творчасці, як мне наглядалася, была ў пісьменніка нават у такіх справах, як творчыя камандзіроўкі. Вольскі можа быць для ўсіх нас, пісьменнікаў, яскравым прыкладам таго, як неабходна плённа выкарыстоўваць гэтую магчымасць для ажыццяўлення сваіх творчых задум.

Дарэчы, вось яшчэ што. Заўсёды, сустракаючыся ў Саюзе пісьменнікаў, Віталь Вольскі пры ўсёй сваёй сціпласці не мог стрымацца, каб не расказаць пра сваё чарговае падарожжа па роднай зямлі, пра тое новае, што ўбачыла вока пісьменніка. Неаднойчы, як помніцца мне, ён выказваў і зусім канкрэтныя, слушныя думкі пра нашы недахопы, недагляды ў адносінах да прыроды. Можна толькі пашкадаваць аб тым, што не заўсёды былі мы чуйнымі і дзейснымі, каб у час біць трывогу пра нашы экалагічныя пралікі і нядбайнасць.

У выніку творчых камандзіровак, частых вандровак па рэспубліцы, па яе лясах, рэках і азёрах, сустрэч з рознымі людзьмі ў Віталя Фрыдрыхавіча Вольскага напісалася багата твораў. І, зноў падкрэсліваю, найперш для маладога пакалення, нашых юных чытачоў. Спачатку я намерыўся пісаць толькі пра адну з падараваных мне пісьменнікам кніжку «Палессе». І найперш таму, што Палессе для нас, беларусаў, унікальны край, дзіўнае месца нашай прыроды. Кніга «Палессе» выдадзена ў 1971 годзе. А чытаеш яе сёння і цябе ахоплівае пачуццё таго, як пісьменнік улюбёна расказвае пра асаблівасці гэтай зямлі, пра яе жыхароў. У Вольскага было мноства знаёмых у гэтым краі, і наведванне іх, шчырае, прыязнае, сяброўства дапамагала пісьменніку глыбока, цікава, займальна паказаць нам і пінскія балоты, і дарогі на іх, і рэчкі на іх, і многае іншае. Мае ўнукі чыталі «Палессе» і адзін аднаму пераказвалі, якія звяры, якія птушкі, якія расліны напаўняюць прасторы нашага Палесся, адметнага цудоўнага і багатага краю. Не прачытай і сёння юнак ды і дарослы гэтую кнігу, дык і ведаць не будзе , што гэта за асаблівы, непаўторны куток роднай Беларусі.

**Павел КАВАЛЁЎ.**

---

# ПРА БАЦЬКУ— З ПАВАГАЙ І ЛЮБОЎЮ

Нярэдка ў нас здаралася і здараецца, што пэўныя гістарычныя асобы не атрымлівалі належнага асвятлення, таму і да гэтага часу не вызначана іх сапраўднае месца ў спадчыне роднай культуры. Прычыны былі розныя, але факт застаецца фактам — некаторых сапраўды славутых людзей, гордасць беларускага народа, мы ведаем надзвычай павярхоўна.

Доля такіх людзей напаткала і Ігната Буйніцкага. Зусім нядаўна (23 жніўня) споўнілася 130 гадоў з дня нараджэння, амаль 75 гадоў прайшло, як ён памёр (1917 г.). Што нам, сучаснікам, вядома пра гэтага Чалавека? Вельмі і вельмі мала! Існуюць некалькі публікацый у кнігах, прысвечаных гісторыі беларускага мастацтва і тэатра, у якіх аўтары сёе-тое паведамляюць і пра І. Буйніцкага. Пераважная большасць гэтых матэрыялаў — інфармацыйныя нататкі грунтоўнага, шматграннага вобраза дзеяча беларускага тэатра, якім з'яўляецца І. Буйніцкі, яны не ствараюць.

Таму зусім натуральнымі былі цікавасць, інтарэс, што агарнулі мяне, калі я чытаў кнігу У. Няфёда «Ігнат Буйніцкі — бацька беларускага тэатра», якая толькі што выпушчана выдавецтвам «Навука і тэхніка».

Гэта — першая кніга, цалкам прысвечаная чалавеку, які закладваў падмурак беларускага тэатральнага мастацтва і чый уклад у яго невымерны. Кніга своеасаблівая. Аўтар яе — мастацтвазнаўца, член-карэспандэнт Акадэміі навук, але з-пад яго пяра выйшла не навуковае даследаванне, не акадэмічная праца. Характар гэтага выдання выказаны ў падзагалоўку да яго: «Вачыма сучаснікаў і ў памяці нашчадкаў». І вобраз І. Буйніцкага як чалавека, і яго дзейнасць як творчай асобы аўтар імкнецца стварыць іменна з дапамогай яго нашчадкаў і сучаснікаў, якія добра ведалі яго, поацавалі разам з ім і ў сваіх успамінах, а таксама пісьмовых сведчаннях узнаўляюць жывыя рысы непаўторнага мастака.

Вядома, надзвычай нялёгка было ажыццявіць такую задуму. Столькі часу прайшло, як віліся па зямлі жыццёвыя і творчыя сцежкі-дарожкі Ігната Цярэнцьевіча Буйніцкага. Дзе ўжо яны, жывыя сведкі тых далёкіх гадоў!.. Здзейсніць свой намер-ідэю У. Няфёд змог толькі таму, што выношваў яго і працаваў над ім многія дзесяткі гадоў. Яшчэ ў 1950-я гады ён наведаў родныя мясціны І. Буйніцкага, адшукаў людзей паважнага ўзросту, якія ведалі і памяталі свайго славутага земляка, сабраў ад іх вельмі каштоўныя ўспаміны. З тых успамінаў выразна паўстае вобраз вельмі чулага і добрага душой чалавека, сардэчнага і спагадлівага, шчырага і простага ў абыходжанні з аднавяскоўцамі.

**Зноў і зноў згадваюць землякі Ігната Цярэнцьевіча — чараўніка-артыста, віртуознага веселуна і танцора. «Памятаю, — расказваў І. М. Шчарбіцкі з вёскі Празарокі, — як Буйніцкі наладжваў у Празароках на кірмашы гулянні ў час дажынак, на Купалле. Музыкі ігралі на цымбалах, скрыпках, дудзе. Гучалі жніўныя і купальскія песні. А Ігнат Цярэнцьевіч дык у скокі пускаўся. Ох, і скакаў жа! Быццам віхор тут які праносіўся. Другога такога танцора ніколі ў жыцці не бачыў... «Хутка будзем мы на сваёй зямлі смела гуляць, танцаваць, песні спяваць», — часта гаварыў Іван Цярэнцьевіч»...**

**Некаторыя з землякоў Буйніцкага бачылі ў ім не толькі веселуна, гарэзу-танцора, а і нешта значна большае. Так, настаўнік В. Сосенскі піша ў сваіх успамінах (1961 г., архіў аўтара рэцэнзуемай кнігі): «Я з Буйніцкім пазнаёміўся ў Змітрака Бядулі. Буйніцкі быў заўсёды добразычлівы да людзей, не зазнаваўся — прыходзь да яго, жыві, працуй. Ён быў з кожным ласкавы, заўсёды гаварыў: «Жыві са мной, спявай, будзем разам працаваць».**

**Ігнат Буйніцкі ў той час быў адзін з многіх такіх агітатараў, якія хадзілі па вёсках, агітавалі супраць царызму і эксплуатацыі... Ён глыбока верыў у свой народ і добра ведаў і яго таленавітасць, і яго адсталасць. Таму Буйніцкаму хацелася ўхапіць хоць бы адну жменьку праменняў ад сонца, каб аддаць свайму народу. Гэта ён бачыў у тэатральных прадстаўленнях, у спектаклях. Буйніцкаму хацелася паказаць з сябе артыста, у якім народ мог бачыць сам сябе. Во, такім агітатарам быў Буйніцкі».**

Зусім зразумела, што мясцовыя ўлады рэгіёнаў, дзе выступаў са сваёй трупай Буйніцкі, не маглі не разумець сутнасці таго, што ім прадстаўлялі. Так, ім залівіста спявалі бяскрыўдныя народныя песні, падмосткі грымелі ад заліхвацкіх танцаў, карагодаў. Але там жа гучалі радкі, накшталт вось гэтых купалаўскіх:

**— Хоць ты, сэрца, лопні,**
**трэсні,**
**Хоць ты выгані, пан, з хаты,—**
**Буду пець я свае песні**
**Ці то ў будні, ці то ў святы!**
. . . . . . . . . . .
**Гэй, прасніся, беларусе!**
**Усе людцы паўставалі.**
**Гэй, прасніся, беларусе!**
**Усе праўдачку пазналі!**

Дэкламаваліся востра сацыяльныя, з рэвалюцыйным настроем вершы Я. Лучыны, К. Каганца, Я. Коласа, Цёткі, М. Багдановіча і інш.

Калі згадаць, што падобнае дэкламавалася ў час, калі пасля рэвалюцыі 1905—1907 гг. у краіне надышла рэакцыя, якую зноў захліснулі рэвалюцыйныя падзеі, — можна зразумець, чаму царскія апрычнікі ад такіх «нумароў» не былі ў захапленні. Неаднаразова здаралася, што мясцовыя ўлады спрабавалі забараняць выступленні трупы, і яе кіраўніку даводзілася ездзіць да мінскага губернатара вымольваць дазвол.

На падставе разнастайнага фактычнага матэрыялу: успамінаў, артыкулаў, архіўных дакументаў, сведчанняў тагачаснай прэсы — у кнізе У. Няфёда аргументавана пададзены няпросты працэс нараджэння беларускага прафесійнага тэатра праз розныя формы самадзейнасці (вечарынкі, батлейку, аматарскія спектаклі, танцавальныя групы і інш.). У гэты працэс надзвычайны ўклад Ігната Буйніцкага, якога аўтар кнігі зусім справядліва назваў — «Бацька беларускага тэатра».

Нараджэнне «Першай беларускай трупы» Ігната Цярэнцьевіча, сапраўды бурная, няўрымслівая дзейнасць, заўсёдныя гастролі па Беларусі і за яе межамі — у цэнтры ўвагі мастацтвазнаўцы. Яго верныя і надзейныя памочнікі ў падачы фактаў і падзей — зноў жа ўспаміны, дакументы, публікацыі ў друку. З іх і складваецца жывая карціна дзейнасці трупы Буйніцкага, паўстае яе творчы воблік, яе людскія характары.

Усё шырэйшай і шырэйшай рабілася геаграфія гастроляў трупы І. Буйніцкага. Акрамя роднай Беларусі (Слуцк, Капыль, Свянцяны, Дзісна, Нясвіж, Мінск, Клецк, Ляхавічы, Полацк, Вілейка, Смаргонь, Ашмяны і інш.), наведаліся ў Пецярбург, у Варшаву. І ўсюды — трыумф, захапленне публікі.

Хочацца асабліва падкрэсліць, што «Наша Ніва» вельмі ўважліва сачыла за творчым жыццём трупы І. Буйніцкага, яна зноў і зноў асвятляла яе гастролі ў розных мясцінах Беларусі і за яе межамі, публікавала вершы, гумарыстычныя і сатырычныя мініяцюры, апавяданні, якія Буйніцкі ахвотна ўключаў у рэпертуар трупы, што надавала яму патрэбную сацыяльную накіраванасць і адпаведную змястоўнасць. На старонках газеты выступалі ўжо добра вядомыя ў той час беларускія пісьменнікі, якія высока ацэньвалі дзейнасць нованароджанага творчага калектыву. Так, Я. Купала, які асабіста пазнаёміўся з І. Буйніцкім у Пецярбурзе ў час яго гастроляў там, сваё захапленне ад убачанага неадкладна выказаў у змешчаных «Нашай Ніваі» допісе і вершы «Ігнату Буйніцкаму».

**Неаднаразова бываючы на вечарынах трупы Буйніцкага, Я. Купала ўсё больш зачароўваўся ёю і разумеў важнасць яе дзеяння для роднага краю. Магчыма, гэта захапленне поспехамі драматургічнага калектыву трупы і падштурхнула Купалу-паэта на творчыя спробы ў жанры драматургіі, — неўзабаве з'явілася камедыя «Паўлінка» (1912 г.), а ўслед за ёй — драма «Раскіданае гняздо» (1913 г.). Відаць, дабрадзейная і натхняльная праца Буйніцкага нейкім чынам спрыялі таму, што драматургія завабіла і такіх пісьменнікаў, як Я. Колас, К. Буйло, А. Гурло, З. Бядуля, У. Галубок і інш. Іх творчая дзейнасць закладвала падмурак беларускага прафесійнага тэатра. Нездарма ж і невыпадкова ў І. Буйніцкага былі добрыя кантакты з Ядвігіным Ш., Я. Купалам, Ц. Гартным, З. Бядулем, Цёткай, А. Паўловічам, З. Верас. Варта зазначыць, што Цётка прымала непасрэдны ўдзел у працы трупы (выконвала ролі ў спектаклях «Спатканне» А. Чэхава, «У зімовы вечар» Э. Ажэшкі, «Па рэвізіі» М. Крапіўніцкага), а З. Верас аднойчы танцавала з Буйніцкім у першай пары «Лявоніху»...**

...Такую шырокафарматную, аб'ёмную карціну намаляваў У. Няфёд у сваёй кнізе пра Ігната Буйніцкага. Намаляваў, як ужо адзначалася, з дапамогай землякоў майстра сцэны, з дапамогай сведчанняў тагачаснай прэсы, архіўных дакументаў, паводле згадак людзей, што працавалі разам з Ігнатам Цярэнцьевічам. Глыбокая павага і шчырая любоў да бацькі беларускага тэатра прагучала ва ўсіх гэтых успамінах, сведчаннях, дакументах. Такой павагай і любоўю прасякнута і кніга Уладзіміра Няфёда.

**Іван КУДРАЎЦАЎ.**

У. І. Няфёд. Ігнат Буйніцкі — бацька беларускага тэатра. Мн., «Навука і тэхніка», 1991 г.

**Таіса БОНДАР**



# Світае, не ў душы, а за вакном...

●

На твары сутаргаю стыне боль,
І як я ні ўзіраюся ў цямрэчу—
Ні ззяння зор, ні калыхання свечак
Не бачу там, у ночы, за сабой.

З кім гаварыла! Што працяг сказаў!
Балюча нават думаць пра сустрэчу:
Мо не пазнала й абмінула вечнасць,
Паверыўшы не ёй, сваім слязам.

Мо плакала ў адказ на слёзы тых,
Каго за мітуснёй даўно забыла...
Не помню. І цяпер, што б ні рабіла,
Не вернецца душа мая да іх.

Світае. Не ў душы, а за вакном,
За крыжам рамы, выраслым з цямрэчы,
І я міжволі прыгінаю плечы,
Перахрысціўшы цішыню крадком.

Ці мала што! Мо міг назад яна
Кружылася, плыла над апраметнай —
Праз немату ці плач, праз стогны ветра...
Баліць жа мне няўцямная віна!

●

«Падайце дабрыні... на зман душы...» —
Вядзе й вядзе асірацела хтосьці.
То ў згадцы, што намерылася спомсціць
За ўсё, чым прамінулы век грашыў.

То проста за дзвярмі, пад ціхі стогн
Асіплага прастуджанага ветра.
На зман душы... Нібыта на паўсвета —
Нікога, ўратаванага Хрыстом!

Нікога. Мне даўно няма куды
Ад думкі гэтае нясцерпнай дзецца...
Калі б яшчэ не чуць, як плача сэрца
У прадчуванні новае бяды!

Зман і бяда — спрадвеку спарышы.
Я ведаю. І голасу не веру.
І ў свет гукаю, прачыніўшы дзверы:
Падайце дабрыні... на зман душы...

●

Нас нашы ворагі знаходзяць самі
Тады і там, дзе лёсу закарціць.
Што ж крыўдаваць!
Не ў краме, дык у храме
Рахунак давядзецца аплаціць.

І чым хутчэй, тым лепей: стане волі
Ачысціцца ад звадаў і трывог
Раней, чым разам з перагорклым болем
Зглынем сумненне ў тым, што з імі Бог...

Ён — з імі. І тлумачыцца ўсё проста:
Не ім, а нам наканаваны шлях,
Не іх, а нас прываблівае прастрань,
За рысу смерці доўжачы абсяг.

Адно не азірацца, не сцінацца
У страху за прадвызначаны лёс:
За ўсё, за ўсё як ёсць, аддзячыць праца,
Прызнаўшы ў нас абраннікаў нябёс.

●

Ноч. Бяссонныя ўздыхі крыжоў.
Агароджа,
За якою стаіўся біззорны абшар...
Я запальваю свечку і ціха ўваходжу
У тваю адзіноту, у храм твой, душа.

І бязгучна, бясслёзна, бяссільна малюся,
У малітве шукаючы выйсця для слёз,
Бы аглухлае неба пачуе іх — мусіць! —
Каб адвесці ад краю нябыту мой лёс.

Не такая ўжо гэта вялікая ласка,
Калі зведана, змерана столькі пакут:
Смерць была б, як і скрозь,
нечаканай падказкай
Для таго, чыёй воляю вершыцца суд.

Я асуджана часам... І рада, не рада,
А з удзячнасцю ўсё, што належыць,
прыму:
Не патолі ж прасіла й прашу, не спагады,
А самотнае песні на ўцеху яму.

●

Здавалася б, жыццё не папракнеш:
За што! За лішак чэрствасці ці ласкі!
І плакаў жа і радаваўся верш,
Нярэдка яву падмяніўшы казкай.

Не дзеля зману, не — дзеля красы,
Якая ратавала і ад зману,
Вяртаючы з нябыту не часы,
А гукі й пахі тых часоў туманных.

Грудочак гліны лашчыла далонь,
Цяпло яе пілі пялёсткі кветак,
Каб іх дыханнем вырваўся агонь,
Які засведчыў бы з'яўленне света.

Гучала немата. Смяяўся Бог.
Спявалі птушкі ў райскім яго садзе...
І вось азваўся з апраметнай рог,
Каб паляўнічых пах крыві прынадзіў.

І палілася кроў, і на крыві
Раслі не кветкі, не сады — саборы:
Не дзеля мёртвых, не — дзеля жывых,
Якім ужо не выбавіцца з гора.

І што ж цяпер! Жыццё не папракнеш,
Сябе не зганьбіш, просячы патолі...
І плакаў жа, і радаваўся верш,
Пакінуўшы мяне сам-насам з доляй.

●

Хаваюся ад позіркаў чужых,
Ад слоў чужых, ілжывых і бязбожных,
Ад думкі, па-сапраўднаму трывожнай,
Што мне не ўкрыцца анідзе ад іх.

Ні крыўда не ўратуе, ні самота,
Ні гордая ў сваім бяссіллі злосць:
У кожнага правы якіясь ёсць
І на мяне, і на маю работу.

У кожнага... І каб жа гэты доўг
Льга выплаціць, сплаціць за век нядоўгі!
Выдаткі часу. Ці, хутчэй, дарогі,
Якую ўжо не адпіхнуць ад ног.

Вядзе ці Бог, ці лёс — ягоным імем:
Хацела, не хацела, а іду
З натоўпу — у натоўп, з бяды ў бяду,
Затузаная, змучаная імі.

І дзе ўжо тут чужое, дзе маё,
Не разабраць: усё гняце і мучыць,
І марна памінаць пра немінучасць
І новых страт, і новых завяёў.

З натоўпу — у натоўп. Бездапаможна.
Чапляючыся за любы адказ...
Адкажа лёс — і запалае час
Над ззяннем слоў, ілжывых і бязбожных.

●

Бадылле спёкі... Укамянелы плач...
Гарачым пылам точыцца з расколін
Рудая кроў наўкоўля, і не поле —
Нутро яго раздзёўбвае крумкач.

Ашмоцце скрозь... Як скрозь — сляды
агню
І спусташэння:.. Каб хоць што жывое!
Над мёртваю, датлелаю травою
Не скалыхнуць цяжкую цішыню.

Аціх і плач, і выгарэлы шум.
Крумкач. Бадылле спёкі. Сонца-вусень...
Зямля! Душа, пакінутая ў скрусе!!
Не знаю. За абедзвюх папрашу.

●

Пагляд падымеш —
птушкі, птушкі, птушкі...
Узмахі крылаў тушаць цішыню,
Хоць гэта ёй маю трывогу гушкаць
У сініх тонях дня, на ўцеху дню.

На ўцеху... Ну, якая ў тым уцеха —
Растрэсці ношку горкіх, згорклых дум,
Каб рэха прарасло праз горыч смехам,
Таму, хто падбярэ іх, на бяду!

Не, не, раней, чым возьмецца прарочыць
Мая трывога, мне яе змагчы:
Знікаюць птушкі з набліжэннем ночы,
Ідзі ўгадай — буслы ці крумкачы.

Буслы, буслы! — падказваю ўяўленню,
І ў суцемках выразна бачу рух:
Па чорным небе белыя іх цені
Плывуць па крузе, утварыўшы круг.

І гэты круг іх на вачах святлее,
Расце, ўздымаючы вышэй абшар...
Не чую цішыні. Гучыць надзея.
Надзеі адгукаецца душа.



Фота А. КЛЕШЧУКА.

ГЭТУЮ гісторыю ведалі толькі яны двое. Была ўмоўленасць паміж імі захаваць як глыбей іхнюю таямніцу. Гэткае дыктавалася воляю аднаго над другім. Дакладней, над другою. І тлумачылася паміж імі вялікай розніцай іхняга сацыяльнага і службовага становішча.

Але раскажам усё па парадку.

Прыходзіць познім вечарам дамоў Панамарчук і хуценька са словамі да жонкі:

— Вера, Вярунчык, што сёння адбылося. Ты і не паверыш...

— Расказвай... Ты ж гаваркі толькі ў сваім начальніцкім кабінеце... Дома ж табе сказаць што ўсё часу не хапае...

На гэты раз Панцялей Кандратавіч быў сціпла стрыманы і на здзіў Веры Георгіеўны на яе папрок нічога не адказаў. Быў маўклівы.

А Вера Георгіеўна юркнула тым момантам у пярэдні пакой. Адразу заўважыла на шырокім дыване нейкі незнаёмы камячок. Вочы яе ажно пашырэлі, пільна прыгледзеліся. Камячок заварушыўся. У яе і вочы, як кажуць, на лоб палезлі. Пачуўся ціхенькі-ціхенькі дзіцячы, не інакш, піск. Такі кволенькі, жаласлівы, зусім бездапаможны.

Такое і зусім нечаканае захапіла ўвагу жанчыны, сэрца яе ажно зайшлося, балючасць у ім раптам адчулася. Вера Георгіеўна нахілілася да камячка, шчыльна агорнутага ў цёплую прасціну. Пачала разгортваць яе і ўбачыла зусім-зусім малое дзіця. Жаночыя рукі, рукі маці адразу пачалі вызваляць ягоныя ручкі, ножкі, пяшчотна дакранацца да іх цёплымі рукамі. Дзіця адчула гэткае і борздзенька заварушылася, галоўкаю хітнула раз, другі.

Панамарчук праз адчыненыя дзверы, з незвычайнай насцярожанасцю, наглядаў за дзеямі жонкі. Утрапёнасць ахапіла ўсяго. Было чаканне таго, што пачуецца з хвіліны на хвіліну. А Вера Георгіеўна нават і забылася на тое сваё «расказвай».

— Дзяўчынка.— пачулася ад Веры Георгіеўны зусім натуральным голасам.

— Няўжо? — нібыта здзіўлена вымучыў з сябе слова муж.

Вера Георгіеўна пачула мужава «няўжо», але рэагаваць на яго, усчынаць гаворку і не падумала. Уся істота маці, уся яе ўвага і клопат былі скіраваны гэтымі хвілінамі на дзіця, зусім малой, бездапаможнай істоты. Да таго ж беленькай, чысценькай і зусім-зусім лагоднай, даверлівай да ласкавых рук жанчыны. А яны, рукі Веры Георгіеўны, якія ўжо выгадавалі сына Валерку і навучылі хадзіць і вымаўляць слова «мама», умеюць даваць жыццю рух, дзейснасць, разумець навакольны свет.

Панамарчук быў як ніколі маўклівы. Усё нутро яго было скавана тым, калі і як пачне жонка дапытваць, што адбылося, адкуль у хаце зусім малая істота. Колькі разоў у думках ён паўтараў, як яму выказацца, якім быць перад Верай Георгіеўнай. Назіраючы за яе дзеямі, Панцялей, з вышыні свайго службовага алімпу, ніколі не заўважаў у сваёй жонцы маці. А сёння гэтая яе высокая, усеабдымная якасць жыццядзейнічала на яго вачах.

Гаворка паміж мужам і жонкаю пачалася зусім позняй парою. Ужо спаў Валерка, варушыла чысцюткімі вуснамі накормленая і ўладкаваная ў Валеркаву мякенькую і цёпленькую люльку малая. Панамарчук было сабраўся сесці за свой пісьмовы стол, але той жа хвілінай перадумаў. Найперш трэба ж было адказваць на жончына «расказвай». Атрымалася ж так, што ён не паспеў і рот раскрыць і слова вымавіць, як яваю стала ягонае, калі можна так сказаць, сачыненне. У ім валодала ўвесь вечар вострая і найпільная патрэба пагаварыць з Верай Георгіеўнай, выказаць нарыхтаваныя думкі, надаць значнасць сваёй прапанове. Яму хацелася, каб гучалі яго словы, не выклікаючы пярэчання, набывалі амаль урадавае гучанне.

На яго, Панцялея Кандратавіча, глядзела ўжо Вера Георгіеўна. Вачэй убок не адводзіла. І Панамарчук узнятаю рукою паказаў на крэслы, якія стаялі на блізкай адлегласці. Адбывалася нешта падобнае на афіцыйны прыём.

Селі. Нейкія секунды абодва маўчалі. Запытальныя вочы жонкі ў чаканні глядзелі на мужа. Паўтараць сваё «расказвай» Вера Георгіеўна не думала. Усё ж адбывалася ясней яснага. Яна нарыхтавалася столькі слухаць.

НА ЖЫЦЦЁВЫХ СКРЫЖАВАННЯХ



Павел Кавалёў

# Невінаватае дзіця

*апавяданне*

— Я слухаю, слухаю,— сказала Вера Георгіеўна.

— І па парадку... Такая нечаканасць. Такая прыгода,— расцягваў, што лыка, Панамарчук.

— Пакуль нічога не разумею,— ціха і заклапочана вымаўляла жонка.

— Пасяджэнне ў мяне, у кабінеце, было... Зацягнулася, людзі любяць пагаварыць... Кожны з абласных ваявод дакладваў па гадзіне. Не менш. А я слухаць павінен быў... Спыняць не меў права... Памочнік і сакратарка ў шэсць вечара свае сталы з паперамі прымкнулі і падаліся дамоў. Рабочы дзень закончаны. Гэта пры Сталіне ўсе яго памочнікі сядзелі з ім да поўначы, а то і да раніцы...

— А ты ж не Сталін. Навошта мне знаць пра гэта,— упікнула Вера Георгіеўна мужа.

— Вядома, вядома... Дрэнныя звычкі час пахаваць і назаўсёды,— Панамарчук надаваў гаворцы з жонкай прыязнасць і вабнасць.

— Ну, ну,— слухала далей Вера Георгіеўна.

— Позна, а пачатку восьмай вечара, усе разышліся. Застаўся ў кабінеце адзін... Нейкіх хвілін дзесяць-пятнаццаць ладкаваў дакументы на стале. І вось выходжу. А ў прыёмнай, на канапцы, дзе часам сядзяць-чакаюць наведнікі...

І аціх. Надаў свайму твару заклапочанасць...

Вера Георгіеўна здагадалася:

— Гэтае дзіця?

— Гэты ахутаны камяк. Зусім нерухомы... Думаў, мо якую... падклалі. Крануць, прызнацца, пабаяўся. А паглядзець адважыўся. І што? У бакавой адтуліне камяка павернуты да сцяны тварык убачыў... Дзіця... Ніхто, здаецца, з малым у абком не прыходзіў...

— Дык адкуль яно? — Вера Георгіеўна ўзняла вочы.

— Нічога не ведаю,— расцягваў словы па складах Панамарчук.

— Падкінуў хто?

— Не ведаю.

— Што ж ты ведаеш, кіраўнік называецца! — Вера Георгіеўна ўжо не магла маўчаць.

— Можа, правяраюць мяне?

— Хто, з якой прычыны цябе будзе правяраць? — жончыны пытанні былі шчто цвікі.

— Ну, як я буду рэагаваць на такое...

— Дык як будзеш рэагаваць?

— Парай ты... Я адразу не знайшоўся... А ты ж жанчына.

— Жанчына не мае такой улады, якую ты маеш...

— Тут не ўлада моц мае, а чалавечнасць...

— Чалавечнасць? — Вера Георгіеўна ці не разгубілася. Панамарчук свядома ўзвальваў усё, што адбывалася, на жончыну галаву. Яна ж прыняла ў сваёй хаце чужое дзіця, даглядзела, вось і спаць уладкавала. Жаночая справа, мацярынская місія, святая і спрадвечная. Гэтыя думкі надавалі Панамарчуку пэўнасць, што малая можа застацца ў яго сям'і. Ён жа гэткае рашэнне падрыхтаваў і моцнымі меркаваннямі пра тое, што здаваць малую ў дзіцячы дом, на дзяржаўны клопат, зараз не трэба. Можа ж, маўляў, і бацькі яе вось-вось знойдуцца. Ды і няхай думаюць людзі, што ён, абласны кіраўнік, чалавек гуманны і чулы.

Вера Георгіеўна, падумаўшы моцна, так і вырашыла. Няхай гэтае слаўнае, зусім невінаватае дзіця застаецца з ёю. Ёсць сынок, няхай будзе і дачушка. Сродкі для выхавання ёсць дастатковыя, ну а рукам яе клопат пра выхаванне прыемны.

Праз месяц, два, калі ніхто і ніадкуль малую не шукаў, Панамарчук сказаў жонцы:

— Ведаеш, Вярунчык, відаць, нейкая хітруха-маці ўсё ж падкінула дзіця, надумаўшы збавіцца ад яго і ведаючы, што я з ім благога не зраблю. Давай удачарым... А... Рашай ты... Слаўненькая ж...

— Ты ж даўно рашыў... Не ўпрытулак, а дамоў прывёз... На вачах у шафёра... Увесь горад ведаць будзе ўсё,— разумна выказвала Вера Георгіеўна.

Так, не параіўшыся нават з адпаведнымі органамі, малая была аб'яўлена Панамарчуком прыёмнаю дачкою і пачала дні свайго жыцця адлічваць у сям'і першага чалавека вобласці.

Дачуліся пра такое праныры-журналісты і літаральна праз некалькі дзён, спачатку па абласным радыё, а потым і ў абласной газеце, было паведамлена, што Панамарчук падабраў некім кінутае дзіця і выхоўвае ў сваёй сям'і. Панамарчук гэтую вестку не абвергнуў. А Вера Георгіеўна была нават узрадавана. Вось цяпер, маўляў, і можа знайсціся бацька ці маці малой.

Ішоў час, расла прыёмная дачка Панамарчуковай, якую назвалі Настуляй.

Многія кіраўнікі пры сустрэчы з Панцялеем Кандратавічам, паціскаючы яму руку, пачалі выказваць ласкавыя словы, хваліць ягоны ўчынак. А той:

— Што, брацці-таварышы, скажаш... Меў толькі сынка, а цяпер і дачушка... Няхай растуць, гадуюцца разам...

Так і жылося сярод людзей тое звычайнае, што ў першага чалавека вобласці, у сям'і, жыве падкідыш. Большага ніхто не ведаў. І таму павага і ўвага да Панамарчука ўзрасла.

Кінадакументалісты з «Летапісу», уведаўшы пра такі выпадак у жыцці абласнога кіраўніка, рашылі зняць сюжэт пра яго самога і сям'ю ягоную. Здымачная група была падрыхтавана, рэжысёр намеціў нават сцэнарны план. Ён жа і паззваніў самому Панамарчуку, сказаў, што прыедуць да яго асабіста, але з якім заданнем — не тлумачыў. Панамарчук, думаючы, што кіношнікам патрэбна зазняць што-небудзь з гаспадарчага ці культурнага жыцця вобласці, быў задаволены, а пытаць, што непасрэдна іх цікавіць, не мог: у яго кабінеце ішла чарговая нарада, ішла бурлівая гаворка.

Кінадакументалісты з Мінска прыехалі раніцою і адразу накіраваліся ў абком партыі, каб дамовіцца з Панамарчуком аб усіх дэталях здымак. У кабінет да Панцялея Кандратавіча пайшоў рэжысёр Сяргей Юр'евіч. Ён неаднойчы сустракаўся з першым чалавекам вобласці, бо неадночы здымаў розныя падзеі, у якіх і Панамарчук браў удзел.

Сяргей Юр'евіч пачаў тлумачыць, ветліва, падрабязна:

— Ну, пра тое, як размяркоўваеце свой час, чым захапляецеся пасля службы, што чытаеце, як бавіце гадзіны з сям'ёю, дзецьмі...

— Дзецьмі? — адхінуўся Панамарчук ад кінарэжысёра.

— Але... У вас жа дачка...

Панамарчук, як уджалены, ускочыў з канапы і глядзеў ужо не на рэжысёра, а на сцяну за канапай.

Сяргей Юр'евіч зніякавеў, але ўсё ж па інерцыі працягваў:

— Сям'я — гэта ж частка грамадства, галоўны клопат асабістага жыцця кожнага чалавека.

— Вядома, вядома, састаўная частка грамадства, — паўтарыў Панамарчук, але на Сяргея Юр'евіча амаль ужо не глядзеў, адыходзіў як далей ад рэжысёра. Пачуўшы тэлефонны званок, амаль подбегам кінуўся да яго. Не сядаючы ў крэсла, пачаў гаварыць. Прыціскаючы трубку да вуха, ціха вымаўляў: так, зразумела, поўнасцю згодны. Сяргей Юр'евіч адчуваў, што размова важная. Ён сядзеў і нават не варушыўся. Чакаў заканчэння размовы.

А Панамарчук, закончыўшы яе, ад стала не адыходзіў. Нахіліўшыся над ім, штосьці гартаў, а потым запісваў на каляндарным лістку. Урэшце павярнуўся да рэжысёра, і той пачуў:

— Дайце мне падумаць. Не магу я гэтак, сходу.

— То пачакаць да заўтра? — спытаў Сяргей Юр'евіч.

— Ды не... Я пазваню вашаму начальству... Вяртайцеся ў студыю сваю,— тонам, які не дазваляе пярэчыць, сказаў Панамарчук і на развітанне падаў рэжысёру руку.

Той пайшоў з кабінета з недаўменнем.

Нікому пра сваю згоду зняцца ў кінадакументце Панамарчук не пазваніў. А дырэкцыя кінастудыі палічыла, што самім турбаваць адказнага чалавека нетактоўна. І запанавала двухбаковае маўчанне.

Толькі не маўчала думка ў рэжысёра Сяргея Юр'евіча. Захацелася яму нясцерпна дазнацца, што гэта і чаму пераначала чалавека, што раптам адмовіўся ён ад здымак. Гэта ж не ад сціпласці Панамарчука.

Доўга вышукваў Сяргей Юр'евіч тыя прычыны, якія змусілі Панамарчука адмовіцца расказаць пра час і пра сябе. Месяц свайго чарговага адпачынку рэжысёр прысвяціў паездцы па вобласці, каб, быццам выпадкова, пагаварыць з рознымі людзьмі пра Панцялея Кандратавіча. У раёне, дзе ён нарадзіўся, сказалі, што ведаюць толькі ягонае дзяцінства. А як пайшоў па службе ўсё вышэй і вышэй, дык і згубіўся. А ў раёне, дзе Панамарчук працаваў у камсамоле, адзін стары жартаўнік, усміхаючыся, выцадзіў словы: «Дзевак любіў».

Гэтае «дзевак любіў» узварушыла думкі Сяргея Юр'евіча, нават нарадзіла штуршок да пошукаў. А, прыёмная дачушка? Адно толькі слова «дачка», вымаўленае тады Сяргеем Юр'евічам, узвініла Панамарчука. Што гэта значыць, думалася рэжысёру, чаму адно слова так павярнула іхнюю гаворку, так перапыніла ўвесь ход запланаванага? Успомнілася Сяргею Юр'евічу тое, што ён, Панцялей Кандратавіч, не адхінуўся ад падкідыша, не даручыў, што мог зрабіць, клопат пра дзіця другім і не хаваў ад сяброў па службе таго, што ўдачарыў малую, не здаў у дом дзіцяці. Гэтым нават дэманстраваў сваё высакародства. Дык што за прыгода, чаго так раптоўна ён, Панамарчук, зынячыўся?

Здаецца, ёсць нейкая таямніца з гэтай малой. Трэба шукаць, думалася Сяргею Юр'евічу, сюжэтную завязку ў ягоных сувязях з жанчынай і толькі гэтым тлумачыць ягоную адмову здымацца для кіно.

І рашыў Сяргей Юр'евіч працягваць пошукі. З паездкі па раёнах ён вярнуўся ў абласны горад. Тут у яго быў знаёмы пісьменнік Аляксей Касцюковіч. Сястра яго Соня працавала ў абкоме партыі стэнаграфісткай. Рашыў сустрэцца з жанчынаю, якая, вядома, не магла не ведаць блізка Панамарчука...

А тым часам Панцялей Панамарчук сніў салодкі, прыемны сон. Сон ягоны пачаўся з таго, што ён у каторы раз сустракаўся са стэнаграфісткай сваёй установы Соняй Касцюковіч. Маладая, прыгожая, вясёлая і працавітая Соня хілілася да Панцялея Кандратавіча. А той не стрымліваў сваёй ласкі, не скупіўся на пяшчоты і добрыя словы. Паміж імі гэты раз у сне адбывалася гаворка. Соня пыталася ў Панамарчука:

— Што, што мне цяпер рабіць, Панцялей Кандратавіч? Маці хавала дагэтуль мой сорам, маю бяду. Болей, кажа, не магу. Збіраецца сказаць людзям пра ўсё...

— А ты ёй пра ўсё казала? — запытаў Панцялей Кандратавіч.

— Як жа, вядома, сказала... Сказала і пра тое, што вы абяцалі развесціся з жонкаю і ажаніцца...

Панамарчук не даслухаў:

— Ты з глузду з'ехала, Соня... Рабіць такое ў маім становішчы? Гэта ж крах, сорам на ўсю рэспубліку.

— А вы ж абяцалі?

— Абяцаў... Але ж...

Соня вяла рэй далей:

— Дык што, падкінуць каму тваю дачушку?

— Як хочаш...

— Вось які вы, бацька называецца...

— Ну, ну...

— А вы не нукайце, а мяне паслухайце. Мне і замуж можна выйсці. Добрыя хлопцы ёсць... Але ж з чужым дзіцем хто захоча ўзяць?

Панамарчук маўчаў.

Соня сваё:

— Утапіць малую?

— Што ты, турмы захацела...

— А вам?

— Што мне?

— Таксама адказ трымаць... Я ўсё, як было, скажу.

— Ну сапраўды ты з глузду з'ехала. Я буду табе памагаць дачку гадаваць... Падумай...

— Не, вы думайце, што нам рабіць...

— Нам?

— А як жа... Не без вас дзіця на свет паявілася...

Панамарчук варочаўся ў сваім ложку, нешта трызніў, спацеў увесь, яго трэсла ліхаманка. Вера Георгіеўна хацела ўжо будзіць мужа, думала, што захварэў...

Сон доўжыўся.

Тады яму пачулася:

— У вас адзін сын. Забярыце малую ў сваю сям'ю. Я нікому не выкажу сваёй і вашай таямніцы...

— Як гэта зрабіць? — пачаў шукаць выйсце і Панамарчук.

— Падкіну...

Вера Георгіеўна разбудзіла яго:

— Што з табою? Ты ўвесь гарыш... Напалохаў мяне...

— Ат, дрэнны сон бачыў,— прызнаўся Панамарчук.

Сон, як кажуць людзі, быў у руку.

Пра ўсё гэта яшчэ не ведаў Сяргей Юр'евіч.

Панцялей Кандратавіч адчуў, што маўчаць яму нельга. І ён загаварыў:

— Дык вось, Вярунчык,— так ён называў жонку вельмі рэдка. І найбольш тады, калі правінаваціўся і трэба было як найхутчэй вылузацца ад сораму і ганьбы. Вядома, найчасцей ён маніў. І жонка здагадвалася. Але разумная жанчына, нямала ўжо адлічыўшы гадоў сумеснага жыцця, прытоена маўчала. А гэтага яму, Панамарчуку, першаму чалавеку ў вобласці, было дастаткова.

— Ну, ну, — падахвочвала гаварыць мужа Вера Георгіеўна,— я слухаю цябе.

— Ты і ўявіць сабе не можаш, як гэта ўсё адбылося. — Панцялей рабіўся пануры і ледзь не пакрыўджаны.— Раскажу табе ўсё па парадку. Толькі ўважліва слухай.

— Можна? — пераступіўшы парог, спытаў Сяргей Юр'евіч.

— Ды вы ж зайшлі ўжо,— узняўся насустрач рэжысёру Панамарчук.

Павіталіся. Гаспадар кабінета запрасіў Сяргея Юр'евіча прысесці. Той жа хвілінай і сам прысеў на канапу побач з рэжысёрам. Загаварыў адразу:

— Дык што на гэты раз мяркуеце занатаваць у нашай глыбінцы?

Сяргей Юр'евіч, думаючы, як лепш сказаць пра мэту прыезду, пачаў:

— Вы, паважаны Панцялей Кандратавіч, пэўна, ведаеце, што наша студыя стварае летапіс пад назваю «Пра час і пра сябе». Задумалі зняць сюжэт і з вашага асабістага жыцця.

— Што значыць — з асабістага жыцця? — насцярожыўся Панамарчук.

# «НЕ РАЗБІЦЬ, НЕ СПЫНІЦЬ, НЕ СТРЫМАЦЬ»




Слухаць музыку «знутры» — такая магчымасць выпадае нячаста. А тут склалася адпаведная сітуацыя: аркестр, салісты, дырыжор і публіка апынуліся літаральна локаць да локця. І адчулі не толькі цеснату рэпетыцыйнай залы, а і вось гэта: музыку — «знутры». І горача, і неспакойна, і радасна было гасцям залы, не прызначанай для канцэртаў. Мо таму, што раз-пораз на ўсе пяць фортэ падавала голас чарадзейка-медзь? Мо таму, што зусім побач узрушана цікавалі за дырыжорскай рукою спевакі, чакаючы свайго выхаду? Альбо таму, што так ці гэтак хваляваліся ўсе: «афіцыйныя асобы» і проста музыканты, журналісты і сябрукі стваральнікаў новай работы. Кожны міжволі пражыў гэтую гадзіну нераўнадушна.

У сваім прэм'ерным абліччы паўстане новы твор, відаць, праз пару месяцаў. Але і самы першы, чарнавы паказ ужо дае зачэпку для гаворкі.

«Максім»: кампазітар І. Палівода, лібрэта Л. Пранчака, у аснове — Багдановічавы вершы. Першая спроба Дзяржаўнага канцэртнага аркестра Беларусі пад кіраўніцтвам М. Фінберга ажыццявіць цэласную буйную музычна-сцэнічную кампазіцыю. Яна вызначана як поп-опера, але дапускаю, што самі ж аўтары могуць у рэшце рэшт змяніць азначэнне жанру. З першага праслухоўвання яно падалося небездакорным у дачыненні да калейдаскопа абразкоў, падзей, замалёвак, настрояў, пачуццяў, мрояў, дум, з якіх паўстае абрыс Максіма-летуценніка, Максіма-кніжніка. Беларускага паэта, маладога, яркага, трагічнага.

Зрэшты, задумвацца пра трапнасць жанравага азначэння надоўга і ўсур'ёз — гэта, думаю, «усур'ёз і надоўга» недалюбліваць уласна творчасць, забывацца пра яе існасць, плён. У «Максіме» ж творчы плён відавочны: з паўтара дзесятка песень, што ўтвараюць кампазіцыю, ці не палова сталася ўдалым спалучэннем вакальнай інтанацыі, вершаванага радка ды аркестравай аздобы. Яны быццам самі просяцца «на голас» і абавязкова знойдуць прыхільнікаў сярод будучых слухачоў. Пра кампазіцыю ў цэлым я не гавару, ранавата. Няўлоўны, паводле першага ўражання, драматургічны стрыжань можа акрэсліцца ўжо непасрэдна праз сцэнічнае дзеянне, дзякуючы тэатралізацыі: ажыццяўляюць пастаноўку рэжысёр А. Ляляўскі ды мастак А. Вахрамееў.

Хутчэй бы прэм'ера... Хочацца і дапоўніць, і праверыць свае ўяўленні пра «Максіма». Ці так ужо адчуваецца ў музыцы ўплыў стылістыкі «Песняроў»? (Дарэчы, яно і не дзіўна: І. Палівода — колішні «пясняр», аўтар вядомай работы на вершы Р. Бёрнса, аранжыроўшчык з упэўненым почыркам). Ці так ужо страката ўспрымаецца мова кампазітара, калі ён паказвае ўсё, на што здатны як стылізатар (акапэльная сольная песня, і акапэльная балада для мужчынскага вакальнага ансамбля, і жанравая сцэнка, і раманс «пад Малініна», і урбаністычны вуглаваты джаз-рок, і лірычны шлягер)? А, можа, такім і мае быць вянок Максіму Багдановічу — з кветак розных, сярод якіх амаль не заўважыш аднолькавых?

Уплецены ў гэты вянок і маналог У. Кудрына пад гітару, і журботная «Лучына» — акапэльная споведзь І. Афанасьевай, і какетлівая кірмашовая замалёўка Ю. Скараход, і аркестравая акаймоўка ў духу «траістай музыкі» з дасціпнай каларытнай фальшывінкай, і мужная балада «Як Базыль у паходзе канаў», і далікатная цытата з «Лявоніхі», і нечаканы баянны найгрыш М. Скорыкава. І пругкі нястрымны рытм фінальнай «Пагоні» з яе прарочымі радкамі — адзінай агульнай для ўсіх салістаў...

Што б ні пабачылі мы на прэм'еры — касцюмаваны канцэрт, прысвечаны вялікай даце ў беларускай культуры, ці арыгінальны музычны спектакль пад назваю «Максім»; як бы ні спрачаліся наконт яго «літары» і «духу», — я спадзяюся, што мы пабачым, мы пачуем прынцыповую сур'ёзную працу ўсіх артыстаў аркестра, яго салістаў і дырыжора. Шчырую творчую працу, дух якой лунаў ужо ў той непрыстасаванай для канцэртаў зале, дзе праходзяць будні аркестра. За буднямі — свята?

**С. БЕРАСЦЕНЬ.**

# І З ЦІХАЙ РАДАСЦЮ ЧЫТАЮ...

«Страніца лепшая ў штодзённіку жыцця, зноў з ціхай радасцю цябе чытаю я...» Гэтыя радкі Максіма Багдановіча дакладна перадаюць той эмацыянальны настрой, у якім знаходзілася, хочацца верыць, большасць слухачоў пасля канцэрта В. Скорабагатава (адбыўся 30 верасня ў зале на Залатой Горцы). Спявак і ягоны канцэртмайстар Г. Каржанеўская прадоўжылі складанне «Анталогіі беларускага раманса»: сёмы канцэрт гэтага цыкла прысвяцілі 100-годдзю М. Багдановіча і, натуральна, у ім гучалі вакальныя творы беларускіх кампазітараў на вершы паэта.

У асобе В. Скорабагатава выдатна спалучаюцца дар асветніка і майстэрства вакаліста, дзякуючы гэтаму беларуская музыка мае свайго выдатнага інтэрпрэтатара. На кожным канцэрце спевака зноў і зноў пераконваешся ў значнасці, якую набывае роля выканаўцы ў трыядзе: кампазітар - выканаўца - слухач. І ў гэтым сэнсе В. Скорабагатава можна смела назваць сааўтарам многіх твораў, якія гучалі ў «багдановічаўскім» канцэрце.

Адзначу арыгінальнасць драматургічнай пабудовы праграмы канцэрта, дзе пейзажныя музычныя замалёўкі («Зімовая дарога», «Цёплы вечар» Р. Суруса, «Завіруха» Л. Мурашкі) адцяняліся творамі глыбока драматычнымі («Мы доўга плылі ў бурным моры», «Не кувай ты, шэрая зязюля» С. Бельцюкова, «Скрылася кветкамі ў полі магіла» М. Аладава), светлая лірыка (вакальны цыкл А. Багатырова) суседнічала з народна-бытавымі жартоўнымі сцэнкамі («Скірпуся» Л. Захлеўнага, «Невясёла камару» А. Туранкова), глыбокі псіхалагізм маналогаў (Я. Паплаўскі, «Кветкі асення»; Ю. Андрэева, «Павукі»; В. Помазаў, «Лясун») змяняўся вострай сатырай (А. Друкт, «З Гейнэ»).

Былі ў гэтым канцэрце і свае, як кажуць, «разыначкі».

Прагучалі два рамансы — Я. Паплаўскага і Ю. Андрэевай на адзін верш — «Плакала лета». Па-рознаму «прачыталі» Багдановіча маладыя кампазітары: у Паплаўскага гэта засяроджана-драматычны маналог, у Андрэевай — імпрэсіяністычная замалёўка. Свае адметныя фарбы ў выкананні абодвух твораў знайшоў і спявак.

Прыемна было пачуць і творы М. Аладава, А. Туранкова і А. Багатырова, якія ўвайшлі ў гісторыю беларускай рамансавай літаратуры, але і сёння не страцілі сваёй свежасці і абаяльнасці.

В. Скорабагатаў і ў гэтым канцэрце яшчэ раз прадэманстраваў свае акцёрскія здольнасці, ён быў аднолькава пераканаўчы ў лірыцы і драме, але асабліва ўдаліся яму жанравыя сатырычныя і гумарыстычныя карцінкі. Тры творы — бытавая замалёўка ў сялянскім духу «Скірпуся» Л. Захлеўнага, яркая сатыра А. Друкта «З Гейнэ» («Сучасным паэтам») і «вельмі жаласлівая гісторыя» (паводле вызначэння Багдановіча) пра камара — «Невясёла камару» А. Туранкова былі выкананы з іскрыстым гумарам, тонкай ironіяй.

Асаблівы ж поспех выпаў на долю славутай «Зоркі Венеры». Доўгі час лічылася, што аўтар музыкі невядомы. Але цяпер яго імя можна назваць: Сымон Рак-Міхайлоўскі. Апрацоўку раманса зрабіў І. Алоўнікаў. Гэты светлы вальс прагучаў на заканчэнне канцэрта і быў выкананы на «біс».

Чулым партнёрам спевака, як заўсёды, выступіла канцэртмайстар Г. Каржанеўская. Раяль гучаў цудоўна, асабліва ўдаліся «ціхія месцы» ў акампанеменце, дзе піяністка быццам ткала з гукаў адмысловы, прыгожы, бясконцы ўзор.

Безумоўна, канцэрт удаўся. Працытую зноў М. Багдановіча: «Калі ў дух мой западзе і заварушыцца там кавалак грубага жыцця, ў жомчуг звернецца ён сілай пачуцця». Сапраўды, пачэсную місію — зрабіць «кавалак нашага грубага жыцця жомчугам» узялі на сябе артысты, якія сваім натхненнем, майстэрствам, нястомнымі пошукамі новага і цікавага нясуць святло і радасць нашым душам.

**Таццяна ПЕСНЯКЕВІЧ.**

# ТЭАТР ІДЗЕ ДА ЗГОДЫ

**17 і 18 кастрычніка прэм'ерай спектакля «Хрыстос і Антыхрыст» («Царэвіч Аляксей») Мераякоўскага адкрывае свой чарговы сезон Дзяржаўны рускі драматычны тэатр Беларусі. 19 кастрычніка будзе паказаны яшчэ адзін новы спектакль гэтага калектыву — «Прасцячкі нечаканых астравоў» паводле Б. Шоу. Абодва спектаклі паставіў рэжысёр Барыс ЛУЦЭНКА, які пасля амаль дзесяцігадовага перапынку вярнуўся на пасаду мастацкага кіраўніка гэтага тэатра.**

**— Барыс Іванавіч, згаданыя спектаклі — пачатак ажыццяўлення пэўнай мастацкай праграмы?**

— Вядома, хоць шмат каго здзівіў мой зварот да малавядомай п'есы Б. Шоу. Мяне твор прывабіў маштабнасцю задумы, пэўным выклікам грамадскаму густу... Героі спектакля — прасцячкі, бо знаходзяцца ў палоне лжывай ідэі. Чалавек асуджаны на трагічнае існаванне, і ніякі эўгенічны эксперымент (змяшэнне рас) не пазбавіць яго ад гэтага. Прэм'ера адбылася, «Прасцячкі...» сыграны некалькі разоў, але гэта не азначае, што праца над спектаклем спынілася. У новым сезоне мяркуем зрабіць у ім некаторыя кампазіцыйныя змены, праясніць сюжэт...

Задуму паставіць «Хрыстоса і Антыхрыста» я выношваў шмат гадоў. Яшчэ калі быў жывы мой педагог, Уладзімір Андрэевіч Маланкін, ён аднойчы даў мне пачытаць забароненага тады Д. Мераякоўскага, сказаўшы, што гэта — менавіта мой матэрыял, мой, як рэжысёра, але мне ніколі не дадуць яго паставіць. Але ж, дзякуй Богу, многае змянілася з тае пары. У Д. Мераякоўскага ёсць і п'еса на гэту ж тэму, але мне здалося, што раман «Царэвіч Аляксей» (трэцяя частка яго трылогіі «Хрыстос і Антыхрыст») значна багацейшы, у ім выразней адчуваюцца блізкія мне шэкспіраўскія матывы. Таму мы разам з рэжысёрам У. Рудавым і зрабілі інсцэніроўку рамана. Адыход пісьменніка ад хрэстаматыйных стэрэатыпаў таталітарнай эпохі ў ацэнцы паводзін Пятра І і яго сына Аляксея даў магчымасць сродкамі тэатра прадоўжыць гаворку аб сэнсе і прызначэнні чалавечага існавання. У трактоўцы вобраза царэвіча Аляксея, ролю якога, на мой погляд, бліскуча выконвае наш дэбютант артыст Аляксей Шадзько, хацелася падкрэсліць, што царэвіч стаў мацнейшым, перамог Антыхрыста ў сабе, калі пачаў думаць аб вечнасці, адкінуўшы сумятню штодзённага жыцця.

**— А што далей у вашай праграме? Над чым вы працуеце цяпер?**

— Змаганне чалавека з самім сабой — да гэтай тэмы ўжо на зусім іншым літаратурным і жанравым матэрыяле я паспрабую звярнуцца ў камедыі «Амфітрыён» паводле старажытнагрэчаскага міфа, твораў Плаўта, Мальера, Клейста, Жыраду, Хакса. Міф аб тым, як нарадзіўся герой Грэцыі Геракл, дае магчымасць стварыць спектакль аб прыгажосці і велічы чалавечага духу...

Выношваю задуму паставіць «Рэвізора» М. Гогаля — да гэтага геніяльнага твора я ўжо аднойчы звяртаўся, ставіў «Рэвізора» ў Берліне ў канцы сямідзесятых гадоў. «Гараднічы і К°» — такая магчымая назва будучага спектакля. Мне здаецца, учынкамі персанажаў у «Рэвізоры» кіруе не страх, а зайздрасць. Гараднічы не проста фізіялагічна баіцца Хлестакова — уся логіка яго слоў і паводзін выклікае пачцівую зайздрасць. Таму, набыўшы вопыт сутыкнення з Хлестаковым, Гараднічы сапраўднага рэвізора ўжо зусім не баіцца. Нельга ставіць «Рэвізора» толькі як спектакль пра дурняў і тыпажоў-шаржаў — а менавіта так звычайна ставілася камедыя М. Гогаля ў многіх тэатрах.

**— Хто яшчэ будзе працаваць у Рускім тэатры ў якасці рэжысёра-пастаноўшчыка?**

Рэжысёр Сяргей Астрэнка, які хоча паспрабаваць увасобіць на нашай сцэне ўсходнюю стылістыку тэатральнай метафарычнай мовы, будзе ставіць спектакль па драме шведскага драматурга Хары Мартэнсана «Тры нажы з краіны Вэй». Цікавыя вострасюжэтныя Падзеі з жыцця сярэднявечнага Кітая дасць магчымасць пошуку новых сродкаў сцэнічнай выразнасці, пластыкі, рэжысёрскай тэхнікі. Малады артыст цырка, клоун Аляксандр Осіпаў напісаў п'есу для дзяцей пад назвай «Жылі-былі дурні»; і сам узяўся ажыццявіць на сцэне сваю задуму да зімовых вакацый.

У наступным годзе Дзяржаўны рускі драматычны тэатр Беларусі будзе адзначаць сваё шасцідзесяцігоддзе. Хацелася б хутчэй зрабіць тэатр месцам знаёмстваў, сустрэч, дыскусій інтэлектуалаў, прадстаўнікоў розных прафесій, розных відаў мастацтва, людзей, якіх у наш час жорсткіх канфрантацый тэатр аб'ядноўваў, злучаў, дапамагаў бы ім раскрыць свой духоўны патэнцыял, свае інтэлектуальныя здольнасці. Што гэта будзе канкрэтна — клуб, тэатр-кафэ ў малой зале, культурны цэнтр — трэба падумаць. І назваць такое аб'яднанне — «Згода». Мне здаецца, сёння людзей трэба крыху супакоіць, даць ім лепей і ўважлівей разглядзець адно аднаго, убачыць, што за чалавек побач з табой, хто ён, якая ў яго душа, якія ў яго клопаты, аб чым ён марыць, думае, чым жыве? Зрэшты, а ці не пра гэта павінны мы гаварыць і са сцэны?.. Бліжэй да чалавека, насустрач яму, глыбей у раскрыцці яго сутнасці, — такая, на маю думку, сёння асноўная наша задача і наша праграма.

**Гутарку вёў В. НІКІФАРОВІЧ.**

## НАШ КАЛЯНДАР

**60 гадоў народнай артысткі рэспублікі Ірыне Савельевай. Салістка балета, выконвала вядучыя партыі ў спектаклях «Мара» Я. Глебава, «Святло і цені» Г. Вагнера, «Лебядзінае возера» П. Чайкоўскага, «Рамэа і Джульета» С. Пракоф'ева і інш. Педагог Беларускага дзяржаўнага харэаграфічнага вучылішча (у 1971—77 гг. — мастацкі кіраўнік).**

●

**50 гадоў заслужанаму артысту рэспублікі Яўгену Гладкову. Вучань І. Жыновіча. Вядомы цымбаліст-канцэртант і педагог, прафесар БДК. У рэпертуары творы Г. Вагнера, Д. Смольскага, В. Войціка, С. Картэса, іншых беларускіх кампазітараў, класіка, сучасная музыка (значная частка ва ўласным пералажэнні ды выканаўчай рэдакцыі). Гастраляваў у многіх краінах свету.**

●

**50 гадоў заслужанай артысткі Беларусі Любові Каспорскай. Салістка Акадэмічнага хору Дзяржтэлерадыё Беларусі. Выступае з сольнымі камернымі праграмамі. Першая выканаўца шэрагу вакальных цыклаў беларускіх кампазітараў. Выкладае ў кансерваторыі.**

●

**50 гадоў заслужанаму артысту рэспублікі Мікалаю Майсеенку. Выкладаў спевы ў Гомельскім музвучылішчы, працаваў салістам Свярдлоўскай оперы. Цяпер — саліст ДАВТа Беларусі. У рэпертуары вядучыя партыі барытонавага рэпертуару ў спектаклях «Яўгеній Анегін», «Казкі Гофмана», «Вайна і мір», «Тоска» і інш.**







# Славянская душа

Мастак нарадзіўся не на Клеччыне, але менавіта сюды пралёг маршрут яго вандроўкі. Дагэтуль ён ніколі не бачыў Беларусі і меў пра яе вельмі кволыя ўяўленні. Але такія назвы, як Нясвіж, Мір і, асабліва, Клецк, зберагаў у памяці. Аматар вандраваць, мастак наведаў шмат краін і шмат дзе бачылі ягоныя творы (Францыя, Італія, Аўстрыя, Амерыка). Сёлета іх глядзелі ў Беларусі. А ён убачыў Клецк. Перад адлётам мастак сумнавата падвынікуе: «Цікава было пабачыць гэты гарадок, дзень той быў ці не шчаслівейшым у маім жыцці». Павёз мастак у сваю Баварыю ўражанні ад Беларусі, пакінуўшы ёй у дарунак экспазіцыю, названую даволі дзіўна — «Геапаэзія малявання»...

Напэўна, тыя, хто сочыць за культурнымі падзеямі жыцця рэспублікі, здагадаліся, пра каго ідзе тут гаворка, хто гэты чалавек на здымках. Для тых, хто ўпершыню чуе пра мастака з Мюнхена і яго «вар'яцкую» выстаўку, нагадаю, што гэта Анатоль Чайкоўскі — грамадзянін ФРГ, сын беларусаў-эмігрантаў, якія апынуліся за мяжой пад час вайны. Цяпер Анатолю 44 гады, мае дачку і сына. Аматар хуткай язды, мае дызель-форд белага колеру (наогул, белы колер яго любімы). Скончыў, акрамя студыі, яшчэ і мастацкую акадэмію, напачатку працаваў рэкламным афарміцелем, з 1975 года на «вольным хлебе». Самы вялікі кошт адной з яго карцін, набытых галерэяй, — чатыры тысячы марак. А адкрыў нам мастака Міхась Масюкоў — дырэктар Рэспубліканскай дырэкцыі нацыянальных мастацкіх праграм. А яго ў свой час пазнаёміла з Анатолем Ларыса Верас — супрацоўніца радыё «Свабода». Дзякуючы ім і наладжаны прыезд і выстаўка Чайкоўскага.

Але каб распавесці пра выстаўку суцэльнай абстракцыі, бясформ'я і як бы засілля колераў, трэба прыгадаць, што бацька мастака хоць і не прафесійны, але таксама мастак — жывапісец-рэаліст, стварыў шмат пейзажных і партрэтных палотнаў, выконваў іконы для беларускіх храмаў у Амерыцы. Яшчэ ў маленстве ён заўважыў і падтрымаў мастакоўскія здольнасці сына. Але пошук сябе і сваёй дарогі ў мастацтва змусіў малодшага Чайкоўскага адысці ад бацькавай школы. Дарогай гэтай была філасофія, а маякамі на ёй — Ніцшэ, Фрэйд, Юнге, Сальвадор Далі, Макс Эрнст... Маладога мастака «панесла», як ён сам кажа, ад псіханаўтыкі да поўнай свабоды ўяўленняў, да абсалютнай страты нармальных формаў і як бы нават да бяссэнсавасці — да геапаэзіі. За мальбертам ён робіцца незалежным ад сябе і наваколля, слухаецца і кіруецца толькі «энергіяй».

— Я чэрпаю энергію ў лесе, у «сваім» месцы,— гаворыць мастак,— і я не баюся, што ў мастацтве буду кімсьці незразуметы, я баюся толькі стандартнага мыслення.

Дарэчы сказаць, што мастак усё ж не забаяўся быць незразуметым у краіне, дзе даволі працягла панаваў сацыялістычны рэалізм. Вядома, выстаўку трэба бачыць перш-наперш уласнымі вачыма. А экспазіцыя твораў Чайкоўскага будзе наладжвацца яшчэ не раз, бо цяпер яны належаць Беларусі. Напэўна, убачаць яе і ў Клецку і тады ўжо будуць ведаць не толькі пра здольнага нашчадка гэтай зямлі, а яшчэ і пра ягонага бацьку Дзмітрыя Чайкоўскага, даваеннага тутэйшага мастака. Бо мала хто ведае (нават у мясцовым музеі не ведаюць), што быў такі мастак, што яшчэ ў 1938 годзе выканаў заказ для Пакроўскай царквы — ікону Святога Пантэляймона. Якраз гэты абраз па просьбе бацькі Анатоль і ехаў адшукаць, паглядзець, сфатаграфаваць. На шчасце, вялікае жывапіснае палатно захавалася добра, густыя, яркія колеры з часам не згаслі, не пабляклі. Настаяцель храма аказаўся чалавекам спагадлівым, добразычлівым, дазволіў вынесці ікону на ганак, зрабіць здымкі.

І было яшчэ доўгае блуканне сярод утравелых магіл. Час схаваў ад вока камень з высечаным дарагім імем. Анатоль шукаў апошні прыстанак свайго дзеда, пахаванага ў 1941 годзе. Але знайшліся людзі, якія памяталі Чайкоўскіх, ведалі іхнія крыжы і магілы. Фаіна Сівіцкая дакладна прывяла да святога лапіка зямлі... Вось нарэшце і адбылася сустрэча раскіданых лёсам пакаленняў. Доўгачаканая, простая, сумнавата-светлая сустрэча, прадчуванне якой даўно жыло ў славянскай душы.

**Анатоль КЛЯШЧУК.**
Фота аўтара.









## ЛІТАРАТУРА

### Справаздача «Крыніцаў»

У аўторак вялікая зала Дома літаратара вітала ці не самых маладых прадстаўнікоў нацыянальнай літаратуры — тут прайшоў вечар літаратурнага аб'яднання «Крыніцы», што не адно дзесяцігоддзе працуе пры рэдакцыі газеты «Чырвоная змена» і якое дзякуючы цяперашняму кіраўніку А. Масарэнку набыло сваю другую маладосць. У зале пераважалі гэткія ж, як і самі пачаткоўцы, юнакі і дзяўчаты — студэнты, старшакласнікі, рабочыя сталічных прадпрыемстваў. Апошнія названы зусім не для таго, каб не забыць пра яго вялікасць рабочы клас, як часта любілі гаварыць раней. Проста менавіта сярод маладых рабочых вельмі шмат сёння тых, хто па-сапраўднаму дбае аб нацыянальным Адраджэнні, рупіцца, каб паўсюдна гучала роднае слова.

Пра тое, чым жыве сёння беларуская літаратура, расказалі на вечары намеснікі старшыні Рады Саюза пісьменнікаў Беларусі А. Пісьмянкоў і А. Жалязоўскі; пра юную творчую змену гаварылі У. Дамашэвіч, П. Місько і галоўны рэдактар «Чырвонай змены» У. Бельскі, А. Масарэнка, а таксама старшыня бюро літаб'яднання У. Клімовіч. А пасля, як і водзіцца, справаздачу трымалі крынічане. І паэты, і празаікі, і барды...

### Імя Л. Абухавай

Гарсаветам Давыд-Гарадка прынята рашэнне аб наданні адной з новых вуліц горада імя пісьменніцы Лідзіі Аляксееўны Абухавай (1924 — 1991). Першы твор Л. Абухавай, раман «Глыбіньгарадок», быў напісаны на матэрыяле жыцця славутага палескага мястэчка. Гэты раман у канцы 50-х гадоў карыстаўся вялікай папулярнасцю, быў перакладзены на 16 моў, у тым ліку і на беларускую.

Апошні раз Лідзія Аляксееўна наведала Давыд-Гарадок у 1974 годзе. Тады з-пад яе таленавітага пяра выйшаў новы твор аб людзях Палесся, на гэты раз публіцыстычны нарыс «Сялянскія дзеці», надрукаваны ў тым жа годзе ў часопісе «Москва».

Нядаўна ў адрас гарадской бібліятэкі прыйшла пасылка з Масквы ад мужа пісьменніцы — І. Байрашэўскага. У пасылцы — кнігі Л. Абухавай. Пісьменніца завяшчала іх жыхарам Давыд-Гарадка, аб якіх, як гаворыцца ў пісьме, «...захавала самыя добрыя і цёплыя ўспаміны».

Л. Д.-М.

### Імі ганарыцца Беларусь

Першыя князі Вялікага княства Літоўскага Міндоўг і Войшалк, вядомы графік і кампазітар Напалеон Орда, грамадскі і палітычны дзеяч XVIII стагоддзя Антоній Тызенгаўз, адзін з пачынальнікаў новай беларускай літаратуры Вінцук Дунін-Марцінкевіч, народны пясняр Беларусі Янка Купала і іншыя знакамітыя людзі, кім па праву ганарыцца беларуская зямля,— героі новай кнігі Л. Пракопчыка «Дрэмле памятка дзён...», выпушчанай выдавецтвам «Полымя». Краязнаўчыя нарысы, што ўвайшлі ў яе, увабралі ў сябе багаты фактычны матэрыял, у тым ліку і пачэрпнуты са шматлікіх архіваў. Выданне адрасуецца ўсім, хто цікавіцца гісторыяй роднага краю.

### Альтэрнатыўная праграма па літаратуры

У педагагічнай камісіі СП Беларусі адбылося абмеркаванне альтэрнатыўнай праграмы па беларускай літаратуры для VIII—XI класаў сярэдняй школы. Праграма-праспект напісана творчым калектывам, у складзе якога М. Арочка, І. Багдановіч, У. Гніламёдаў, В. Каваленка, У. Казбярук, С. Лаўшук, У. Мархель, М. Мушынскі, І. Саверчанка, М. Тычына, Т. Чабан і інш. Кіраўнік творчага калектыву — дырэктар Інстытута літаратуры АН Рэспублікі Беларусь В. Каваленка.

У абмеркаванні, якое вёў А. Яскевіч, прынялі ўдзел крытыкі, гісторыкі літаратуры, пісьменнікі. Адзначалася навізна падыходаў да кампаноўкі праграмы, разнастайнасць літаратурнага матэрыялу. Разам з тым прагучалі закіды наконт вялікага, «акадэмічнага» аб'ёму праграмы, складанасці зместу, ужывання застарэлых стэрэатыпаў у асвятленні творчасці асобных пісьменнікаў, трактоўцы тэорыі літаратуры.

Практычную каштоўнасць праграмы адзначылі настаўнікі, якія гаварылі аб недахопе метадычных дапаможнікаў у школе. Магчыма, у такой якасці праграма і будзе ў хуткім часе выдадзена.

### Чарговы нумар «Спадчыны»

У чацвёртым нумары часопіса Беларускага фонду культуры «Спадчына», які толькі што прыйшоў да чытача, прадстаўлены ўжо знаёмыя рубрыкі і раздзелы.

«Народ, гісторыя, культура»— тут развагі В. Вячоркі «Правапіс — люстэрка гісторыі...», артыкул С. Брагі «Доктар Скарына ў Маскве», узяты са зборніка «Запісы», выпушчаным у 1963 годзе ў Мюнхене, падрабязны разгляд Б. Крэпакам адной з цікавейшых старонак у гісторыі беларускага мастацтва — «Віцебскі авангард».

Працягваецца вяртанне да чытача спадчыны А. Цвікевіча — «Западнорусская школа» і яе прадстаўнікі», «Летапісы вялікіх князёў літоўскіх».

Паэзія прадстаўлена паэмай Л. Случаніна «Рагнеда». Пад рубрыкай «Дакументы і людзі» — пачатак публікацыі артыкула З. Жылуновіча (Ц. Гартнага) «Нацыянал-дэмакраты за «працай».

На пытанні намесніка галоўнага рэдактара К. Тарасава адказвае нядаўні біскуп для католікаў Беларусі, апостальскі адміністратар у Маскве для католікаў еўрапейскай часткі Расіі архібіскуп Т. Кандрусевіч — «Абуджаць духоўнасць».

Рэцэнзуецца кніга Ю. Зайца «Заслаўская кафля», друкуюцца чарговыя раздзелы з «Новага запавету». В. Дубінка расказвае пра рэстаўрацыю адной з іконаў («Вяртанне святыні»).

## МУЗЫКА

### На алімпіяду ў Барселону

З сумеснага гастрольнага турнэ вярнуліся калектывы Акадэмічнай харавой капэлы імя Р. Шырмы (мастацкі кіраўнік Л. Яфімава) і Акадэмічны сімфанічны аркестр Беларусі. Выступленні праходзілі ў рамках штогадовых музычных міжнародных фестываляў «Дом Шпаера» ў Германіі і Каталонскага ў Іспаніі. Сімфанічны аркестр у час гастроляў узначальваў Л. Крэмер — вядомы нямецкі арганіст і дырыжор, мастацкі кіраўнік фестывалю ў Шпаеры.

На працягу двух тыдняў калектывамі было дадзена 13 канцэртаў. Праграмы вызначаліся складанасцю і арыгінальнасцю: творы замежнай, рускай і савецкай класікі, прынамсі, «Каранацыйная меса» В. Моцарта і кантата С. Пракоф'ева «Аляксандр Неўскі». Фестываль у Германіі беларускія артысты адкрывалі «Рэквіемам» і Чацвёртай сімфоніяй А. Брукнера. Праграма самастойных выступленняў капэлы была пабудавана на апрацоўках беларускіх народных песень і духоўнай музыкі рускіх кампазітараў, аркестр выканаў Чацвёртую сімфонію П. Чайкоўскага і «Карцінкі з выстаўкі» М. Мусаргскага.

Арыгінальнай з'явай гастроляў сталася выступленне беларускіх музыкантаў у святыні каталонскай зямлі — манастыры Мантсерат. Упершыню за шматвяковую гісторыю манастыра тут адбыўся свецкі канцэрт. Пад купалам кафедральнага сабора прагучаў твор сучаснага іспанскага кампазітара К. Бенгерэла «Чырвоная кніга з Мантсерат». (Пра мінскую прэм'еру гэтага твора «ЛіМ» пісаў). Пасля выступлення беларускіх музыкантаў у Базіліка дэ Мантсерат аўтар заявіў, што на гэтым канцэрце яго твор набыў сапраўднае жыццё.

Вынікам гастроляў сталася запрашэнне капэлы і аркестра для ўдзелу ў канцэртнай праграме Алімпійскіх гульняў у Барселоне.

Т. ВАЛАЧКОВІЧ.

### Памяці Г. Цітовіча



24 верасня ў гасцёўні У. Галубка, што ў Траецкім прадмесці, адбыўся вечар памяці Генадзя Іванавіча Цітовіча — чалавека шчырай душы, добрага сэрца, этнографа, фальклярыста, народнага артыста СССР, лаўрэата Дзяржаўнай прэміі БССР.

Многа цікавага пра жыццё гэтага чалавека, пра ягоную вучобу ў Віленскай семінарыі, а потым у Віленскім універсітэце і кансерваторыі расказала яго жонка Вольга Мацвееўна Цітовіч. У вечары ўспамінаў удзельнічалі былыя артысты Акадэмічнага народнага хору БССР Валянціна Прыдачына, Ганна Башчук. Лідзія Рыльневіч выканала разам з Якавам Навуменкам беларускія народныя песні «Ох, у лужку», «Цёмная ночанька», «Ох, выйду я на вуланьку малада».

Святлана Цітовіч, дачка Генадзя Іванавіча, расказала пра ўзаемаадносіны ў сям'і, пра творчы шлях свайго бацькі, які яшчэ ў 1939 г. стварыў у вёсцы Вялікае Падлессе славуты потым самадзейны харавы калектыў. У 1952 г. Генадзь Іванавіч арганізаваў і да 1974 г. быў мастацкім кіраўніком Акадэмічнага народнага хору БССР, які цяпер носіць яго імя. Выступілі паэты Аўяр'ян Дзеружынскі, Ніна Загорская, майстар-рэстаўратар народных інструментаў Уладзімір Пузыня. У выкананні А. Лук'янюка, А. Даньшына, Т. Рэмез прагучалі беларускія народныя песні «Ой, на раллі, на раллі», «Зеляняюць лугі», «Чабарок», «Малады дубочак».

Н. МЯЦЕЖ,
загадчыца гасцёўні У. Галубка.

### Лучанок запрасіў...

Беларускія, літоўскія, рускія і ўкраінскія песні гучалі на фестывалі ў Беластоку: салісты ды ансамблі з 17 польскіх ваяводстваў, пераможцы мясцовых конкурсаў на выкананне песень чатырох суседніх рэспублік, выступалі разам з гасцямі. Кампазітар І. Лучанок, які таксама быў сярод удзельнікаў фестывалю, запрасіў траіх выканаўцаў — А. Каранецкую, А. Віру ды А. Кучынскую на фестываль беларускай песні, які мяркуецца правесці ў Мінску.

### Усё — для Разіны!



У такім грацыёзным абліччы паўстала перад гледачом у мінулую суботу салістка оперы Інеса Адзінцова. Колькі ў яе гераіні, насмешлівай, кемлівай, какетлівай, упартай, пакорлівай, — абаяльнай жыццёвай сілы! Разіна — самая пяшчотная кветка ў яркім букеце вобразаў неўміручай камедыі. Усё вакол міжволі ладзіцца для яе і праз яе. Прыгажун Альмавіва ахвяруе ўмоўнасцямі графскага этыкету. Тыран Бартала губляе рэшткі свайго старэчага розуму. Дон Базіліё задумвае сваю лепшую інтрыгу. Маладзее ад рэўнасці Берта. Правіць баль, не хаваючы свайго захаплення гаспадынькаю дома, хітрамудры сімпацяга Фігара...

Лёгкія вакальныя агрэхі, якія часцяком здараюцца ў спектаклях, на гэты раз не сапсавалі святочнага ўражання ад жывой ансамблевай ігры салістаў. Падтрыманыя цёплым прыёмам публікі, яны ў ахвотку, ці не з імправізацыйнай лёгкасцю абжывалі кожную сцэнічную сітуацыю. «Севільскі цырульнік» ішоў у гонар 25-годдзя творчай дзейнасці І. Адзінцовай, і стварыць на спектаклі атмасферу бенефіса дапамаглі ёй і добрасумленнасць дырыжора Л. Ляха, і прафесійная самаадданасць партнёраў: У. Экнадзіёсава (Альмавіва), В. Чарнабаева (Бартала), В. Скорабагатава (Фігара), Я. Пятрова (Базіліё), В. Цішынай (Берта). І, канешне, шчырасць гледачоў. Усе кветкі ў гэты вечар прызначаліся Разіне...

### Дэпутатам дапаможа... песня

14 кастрычніка, напярэдадні адкрыцця чарговай сесіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь, у тэатры музычнай камедыі адбудзецца сустрэча з песняй, на якую запрошаны народныя дэпутаты.

Канцэрт гэты праводзіцца па ініцыятыве Дзяржтэлерадыё Беларусі і з'яўляецца працягам даўно вядомага слухачам папулярнага цыкла «Песню бярыце з сабою». Арганізатары канцэрта вырашылі сваёй акцыяй паказаць сучасную беларускую песню ў яе развіцці, прыцягнуць увагу дэпутатаў да працэсаў нацыянальна - культурнага адраджэння, паспрыяць іх настрою на кансалідацыю і памяркоўнасць у прыняцці жыццёва важных для нашай суверэннай рэспублікі рашэнняў.

Сустрэча з песняй будзе трансліравацца ў «жывы» эфір з 19.30 — па тэлебачанні і радыё. У праграме канцэрта прагучаць творы І. Лучанка, Я. Глебава, Д. Яўтуховіча, Э. Ханка, Л. Захлеўнага, іншых кампазітараў на вершы знаных і маладых беларускіх паэтаў: Н. Гілевіча, У. Някляева, У. Карызны, Л. Дранько-Майсюка і інш. Выканаўцы — ансамбль «Сябры» і яго лідэр А. Ярмоленка, Т. Раеўская, М. Скорыкаў, Я. Навуменка, Я. Паплаўская ды А. Ціхановіч, аркестр Дзяржтэлерадыё Беларусі... Вядучая — З. Бандарэнка.

Далі згоду ўдзельнічаць у праграме і вядомыя дзеячы нашай літаратуры С. Грахоўскі, А. Вярцінскі, Б. Сачанка, кампазітар І. Лучанок.

Арганізаваць канцэрт дапамаглі народныя дэпутаты Беларусі Г. Карпенка, І. Трусаў, М. Лобач, Г. Нікіцін, Д. Сыракваш.

## ТЭАТР

### Вяртанне ў працяг

Мастацкім кіраўніком Беларускага акадэмічнага тэатра імя Якуба Коласа прызначаны Барыс Эрын, заслужаны дзеяч культуры Украіны. У свой час на беларускіх сцэнах ён ставіў спектаклі па творах І. Мележа, Я. Купалы, І. Шамякіна, А. Дударава; прэм'ера спектакля «Хам» паводле Э. Ажэшкі зрабілася нядаўняй тэатральнай падзеяй Віцебска.

Адначасова тэатр пакінуў рэжысёр Ігар Баярынцаў.

### Дзецям — партыя?

З... будаўніцтва ўласнае сцэны распачаў чарговы сезон віцебскі тэатр «Лялька»: будынак былога віцебскага ГК КПБ, адзін з найпрыгажэйшых у старажытным горадзе помнікаў архітэктуры нашага стагоддзя, займеў, нарэшце, новых гаспадароў — лялечнікаў. Тым часам спектаклі тэатра можна ўбачыць у адным з Палацаў культуры горада: «Папялушку» Я. Шварца паводле Ш. Перо і «Казку пра Ямелю» Л. Тарахоўскай у рэжысуры В. Клімчука, «Лялечніка» М. Стывенса, увасобленага польскаю рэжысёркай Я. Кешкоўскай.

С. ДАШКЕВІЧ,
загадчык
літаратурнай часткі
тэатра «Лялька».

### Прапіска для Рагнеды

Рыгу на Талін, Беласток на Кіеў, Вільню на Полацкую Сафійку — усяго пятнаццаць сцэнічных пляцовак змяніла Рагнеда са спектакля «Выгнанне ў рай» В. Тарнаўскайтэ і В. Амромінай, дзе Галіна Дзягілева ўзнавіла шэраг гістарычных падзей і стварыла-ўвасобіла шэраг гістарычных асоб, звязаных з імем легендарнай полацкай князёўны. Усяго пятнаццаць спектакляў прапанаваў гледачам Беларускі паэтычны тэатр-студыя аднаго акцёра «Зніч», бо сваёй пляцоўкі не мае, і няма, на жаль, спадзявання, што калісь мецьме.

### Драма далікатнасці

Мянушка «Блакітная ружа» дала новую назву «Шкляному звярынцу» Т. Уільямса; Блакітная ружа Лаўра ці, дакладней, Зоя Белахвосцік у гэтай ролі спраўдзіла надзвычайнае, адметнае сцэнічнае існаванне, ідэя якога належыць рэжысёру Андрэю Андросіку. На сцэне Купалавага тэатра разыгралася прэм'ера — драма далікатных чалавечых дачыненняў, чые праявы «занатавалі» для гледачоў таксама Лілія Давідовіч, Аляксандр Падабед ды Аляксандр Лабуш.

### Тэле«Прывіды»

У «Прывіды» ператварыўся «Машэка» М. Арахоўскага, іншымі словамі, ягоная п'еса ператварылася ў тэлеспектакль В. Анісенкі (дарэчы будзе прыгадаць ягоную пасвойму цікавую, але няспраўджаную пастаноўку паводле Арахоўскага ў Брэсцкім аблдрамтэатры). Мэтру Анісенку дапамагаў рэжысёр-дыпломнік з Марока Шафік Буркія, аператар В. Булдык і мастак А. Каткоў. Сумленна адпрацавалі акцёры — А. Ткачонак, А. Курловіч, С. Кацянёва, В. Радзько.

### Тэлевізійны аўтарскі

Тэлеварыянтам спектакля тэатра студыі «Дзе-я?» «Роспач» паводле У. Караткевіча парадавала сваіх гледачоў БТ апошнім суботнім днём. Адметная кампазіцыя (лепей сказаць — наватвор паводле класіка) рэжысёраў В. Баркоўскага (ён пакінуў ужо тэатр-студыю) і М. Трухана, арыгінальныя пастановачныя вырашэнні, акцёрскія работы, гэтаксама як і работа аператара дазваляюць весці гаворку пра сапраўдны аўтарскі тэатр: гэтым разам — тэлевізійны.

## КІНО

### Свету — па нітцы

Грашыма, сабранымі на дабрачынным сеансе, Саюз кінематаграфістаў Беларусі дапамог сямейнаму дзіцячаму дому Тамары Дзячковай з Магілёўскай вобласці; аўтамабільным кузавам — мінскім афганцам, «ЛіМу» — некалькімі падпіснымі квіткамі.

# З жыцця беларускай эміграцыі

**Барыс САЧАНКА**

## 2.

З «ажыўленнем» БНР, а потым узнікненнем і іншых беларускіх палітычных арганізацый уся беларуская эміграцыя падзялілася на некалькі лагераў. Ішло змаганне за кожнага чалавека, кожную душу. У гэтае змаганне ўключыліся і святары — каталікі, уніяты, праваслаўныя... БЦРаўцы называлі БНРаўцаў камуністамі, БНРаўцы БЦРаўцаў — фашыстамі. Органы друку — газеты, часопісы, што ўзнікалі, быццам грыбы пасля дажджу, то тут, то там, адлюстроўвалі погляды той ці іншай групоўкі, выкрывалі тых, хто знаходзіўся да іх у апазіцыі. Адбыўся раскол і сярод беларускай інтэлігенцыі, якая па розных прычынах апынулася за межамі Бацькаўшчыны. Закранула гэта і літаратараў. Калі, напрыклад, Н. Арсеннева, А. Адамовіч, С. Станкевіч, пакінуўшы шэрагі БЦР, перабеглі да «крывічоў», падтрымліваючы іх, дык некаторыя іншыя не спяшаліся гэта рабіць, а то імкнуліся і зусім быць убаку ад палітычных плыняў. У гэтых адносінах цікавая пазіцыя аднаго з вядомых у свой час празаікаў Савецкай Беларусі, сябра згуртавання «Узвышша», а ў вайну — члена Цэнтральнага ўрада Беларускага культурнага згуртавання Юркі Віцьбіча (Г. Шчарбакова). Апынуўшыся за межамі Бацькаўшчыны, яшчэ будучы ў лагерах ДП, ён пачаў групаваць вакол сябе пісьменнікаў і выдаваць літаратурна-мастацкі часопіс «Шыпшына».

«Беларускае літаратурнае згуртаванне «Шыпшына» (яно стварылася 9 красавіка 1946 г. у Рэгензбургу), — гаварылася ў «Дэкларацыі», — мае на мэце: 1. Згуртаваць беларускіх актыўных і творча-даспелых пісьменнікаў-белетрыстых, паэтаў, драматургаў і крытыкаў, што знаходзяцца на эміграцыі; 2. Працаваць над стварэннем вялікай літаратуры, годнай нашага вялікага народу. «Шыпшына» стаіць на варце поўнае свабоды творчых пошукаў, але для ейных сяброў з'яўляецца абавязковым крытэрый высокае мастацкасці і арыгінальнасці, глыбокая пашана да нашае літаратурнае спадчыны і пачуццё спадкаемства да ўсяго лепшага ў ёй, узаемная пашана да творчасці адзін аднаго, а ў галіне ідэёвай — самаахвярная адданасць Найвышэйшаму Ідэалу нашага Народа».

За кароткі час, як паведамлялася («Шыпшына», у 8, 1950), — згуртаванне менавіта на гэтых прынцыпах аб'яднала амаль усіх лепшых працаўнікоў беларускага мастацкага слова, якія апынуліся па-за межамі сваёй «Бацькаўшчыны». Часопіс жа, які яно выдавала, дзякуючы свайму высокаму мастацкаму ўзроўню, набыў папулярнасць сярод беларускай эміграцыі, пра што сведчылі не толькі шматлікія лісты-водгукі ў рэдакцыю, але і тыраж, які рос ад нумара да нумара. Усё гэта, ды і пазіцыя «Шыпшыны» ў палітычных пытаннях, сяму-таму не падабалася. Пачаліся напады на згуртаванне, спробы яго расколоць, развяліць. Наладзіўшы сувязь з Амерыканскім Камітэтам Вызвалення (цяпер радыёстанцыя «Свабода»), Антон Адамовіч арганізаваў выданне часопіса «Сакавік». Але жыццё «Сакавіка» аказалася недаўгавечным — выйшла толькі тры яго нумары, — у іх былі змешчаны вершы Н. Арсеневай, Р. Крушыны, У. Клішэвіча, Я. Юхнаўца, М. Сяднёва, А. Салаўя, апавяданні Н. Змагаркі, В. Бірыча, некаторыя іншыя літаратурныя матэрыялы. У гэты самы час было арганізавана выданне і іншых часопісаў — органа Дапамогавага Камітэта ў Ватэнштаце «Шляхам жыцця», органа Беларускага праваслаўнага аб'яднання «Звіняць званы Святой Сафіі», «Пагоні» — яго выдаваў паэт Алесь Салавей і інш. Але ўсе гэтыя часопісы, хоць і друкавалі густа літаратурныя матэрыялы, не маглі прэтэндаваць на роль «Шыпшыны». Не змагла перацягнуць на свой бок усіх тых, каго хацела — паэтаў, празаікаў, крытыкаў, — надта ўплывовая «Бацькаўшчына» (1947—1966), хоць знарок дзеля гэтага пачала выпускаць спецыяльную літаратурную старонку. Беларускі інстытут навукі і мастацтва (БІНІМ), што быў утвораны ў Нью-Йорку ў 1951 г. і які напачатку, як паведамлялася ў яго «Запісах», аб'яднаў больш як 50 беларускіх навукоўцаў, мастакоў і пісьменнікаў, што жылі ў Канадзе, Англіі, ЗША, Францыі, Бельгіі, Германіі, Італіі, Аўстраліі, хутка страціў сваю прыцягальную сілу, бо выявілася — пра гэта пісаў потым першы старшыня яго ўправы Я. Ліманоўскі — «гэты Інстытут толькі «навуковы» прыдатак да Абрамчыкавай палітыкі». («Летапіс...», № 66, 1989). Відаць, дзеля аб'яднання ўсёй беларускай замежнай творчай інтэлігенцыі быў створаны і літаратурна-мастацкі часопіс «Конадні», першы нумар якога выйшаў у Нью-Йорку ў 1954 г. Але са сваёй задачай ён не справіўся. Чаму? Каб зразумець гэта, варта пазнаёміцца з лістом Ю. Віцьбіча, які ён напісаў 8.7.1954 г. і адрасаваў С. Станкевічу:

«Пачынаю гэны ліст да Вас з найбольш балючага, як для мяне асабіста, гэтак і для пераважнае бальшыні нашых паэтаў і пісьменнікаў на чужыне. Маю на ўвазе № 1 часапісу «Конадні». Хаця я і сам у гэтым нумары ўдзельнічаю і належу да рэдакцыйнае калегіі часапісу, але сёння склаў заяву аб сваім выйсці з рэд. кал., бо лічу, што лінія, якую абраў часапіс, зусім не спрыяе развою і росквіту нашае літаратуры на чужыне.

Пачынаю з назову. Ён — штучны, кніжны, лабараторны. Прыпушчаю, што магчыма недзе ў адным з шматлікіх паветаў Беларусі і ўжываюць тэрмін — конадні — але затое для ўсіх іншых беларусаў гэны тэрмін незразумелы. І калі кажны сапраўдны пісьменнік вельмі асцярожна ўводзіць ці спрабуе ўвесці той ці іншы паветалізм у літаратурную мову, дык тым больш ці варта, каб паветалізм стаўся назовам літаратурна-мастацкага часапісу. З аднолькавым поспехам можна назваць часапіс «Кагадзе» або «Балазе». Уся штучнасць назову «Конадні» яшчэ больш кідаецца ў вочы, калі параўняць яго з назовамі нашых ранейшых літаратурных часапісаў на чужыне, як — «Пагоня», «Шыпшына», «Сакавік», «Баявая Ускалось» — іхныя назовы сымбалічныя і разам з тым зразумелыя для кажнага шчырага беларуса.

Мова і нават стыль ва ўсім № 1 час. «Конадні» не менш лабараторныя за назоў — яны падагнаныя пад адзіны назоўнік дробу. Таму мімаволі ствараецца такое ўражанне, што ў часапісу ўдзельнічаюць 1—2 аўтары пад рознымі псеўданімамі. Гэтая казённая ніверіроўка забівае апрычонае «Я», бо даспелыя пісьменнікі розняцца паміж сабой не толькі стылем (агульнавядомае — «Стыль — гэта чалавек»), але і адметнасцямі лексікону. Таму менавіта літаратурна-мастацкі часапіс мусіць не забіваць, а наадварот дапамагаць кажнаму пісьменніку цалкам выявіць або знайсці сваё «Я». Між тым, карыстаючыся метадам час. «Конадні» можна адразу з таго ці іншага маладога паэта ці пісьменніка зрабіць эпігона. Можна нават старэйшага паэту ці пісьменніка, калі не зрабіць эпігонам, дык надаць яму ў вачох здзіўленых чытачоў выгляд эпігона.

Кажны літаратурна-мастацкі часапіс на чужыне імкнецца да таго, каб згуртаваць вакол сябе як найбольш літаратараў, імкнецца да таго, каб не адштурхоўваць, а прыцягваць да сябе і вялікіх і малых (у сэнсе стажу) паэтаў і пісьменнікаў. Няхай яны розняцца паміж сабой стылёва — у гэтым акурат і палягае багацце літаратуры, няхай яны належаць да розных эміграцыйных палітычных плыняў — толькі па-за жалезнай заслонай існуе адна партыя. Усе гэтыя, нібы разбежнасці пры наяве адпаведнага падыходу з боку рэдакцыі часапісу, ні ў якім разе не перашкодзяць ім вычуваць сяброўскае «пачуццё локця». Між тым, пераважная бальшыня беларускіх літаратараў на чужыне апынулася па-за часапісам «Конадні». Чаму? Па-першае, таму, што іхнія погляды на літаратуру і мову, а, значыцца, і іхняя творчасць не адпавядаюць поглядам і густам гаспадароў час. «Конадні». Па-другое, таму, што належаць да тае ці іншае палітычнае плыні, а, значыцца, выглядаюць у вачох гаспадароў час. «Конадні» бадай што як «ворагі народу». Па-трэцяе таму, што да шэрагу нашых добрых літаратараў на чужыне проста адразу не звярнуліся з абавязковай у дадзеным выпадку ветлівай просьбай аб супрацоўніцтве. Маю на ўвазе Хмару, Дудзіцкага, Клішэвіча, Ліманоўскага, Золака, Жывіцу, Жамойду, Ніну Змагарку, Міколу Вольнага, Змагара, Козыра, Грэскага, літаратурны маладняк з «Наперад», «Моладзі», «Віці» і інш. І пасля ўсяго гэтага няма нічога дзіўнага, што час. «Конадні» зпрычыніўся не да згуртавання, а да разбіцця пісьменніцкае сям'і.

Яшчэ не паспеў выйсці ў свет № 1 час. «Конадні», як з ягонае рэдакцыйнае калегіі выдалілі Уладзіміра Сядуру, які па сутнасці заклаў фінансавы падмурак для выдання часапісу. Супраць паставіўся гэтаму выдаленню толькі Віцьбіч, але без поспеху. Сам спакінуў рэд. кал. М. Менскі ў сувязі з прычынамі прынцыповага парадку. Калі выйшаў у свет № 1, ягонаму ўдзельніку Міхасю Кавылю зусім беспадстаўна кінулі абвінавачванне ў плагіяце аж у двох аўтараў. Мартына Люціча карэктары ды стылізатары гэтак з'інаначылі, што ён проста не спазнаў сваё апавяданне ў друку і склаў заяву, што надалей нічога агульнага не мае з час. «Конадні». Сёння склаў сваю заяву аб выйсці з рэд. кал. Віцьбіч. Удзельніку № 1 Я. Юхнаўцу (Я. Юхневічу) зусім недвухсэнсоўна зазначылі, што ён трапіў у гэны нумар у сувязі з бракам матэрыялу. І г. д., і г. д.

Крый Божа, не збіраюся ў «крыжовы паход» супраць літаратурна-мастацкага часапісу «Конадні». Сапраўды, хто можа ў дэмакратычных умовах забараніць 1-2-3 літаратарам мець свой уласны часапіс, а тым больш свае собскія погляды на літаратуру і мову. Аднак у тых самых жа дэмакратычных умовах, дзеля якіх мы тымчасам спакінулі сваю паняволеную Бацькаўшчыну, ніхто не прымусіць усіх іншых літаратараў падпарадкавацца «генеральнай лініі». Мой гэны ліст не для друку. Напісаў яго вылучна таму, што мне, дый не толькі мне, вельмі хочацца, каб альманах «Бацькаўшчына» не нагадваў часапіс «Конадні».

.Спадзяюся, што Вы мяне зразумелі». («Летапіс...», № 61, 1988).

Рэдактарамі часопіса «Конадні» былі «крывічы» — Н. Арсеннева, В. Тумаш, А. Адамовіч, Р. Казак (Крушына). У наступных нумарах — а іх выйшла сем (5—6 здвоены) рэдакцыя пашырыла круг аўтараў. У «Конаднях», акрамя згаданых ужо Н. Арсеневай, М. Кавыля, Я. Юхнаўца, Ю. Віцьбіча, М. Люціча, — былі надрукаваны вершы і паэмы А. Салаўя, М. Сяднёва, У. Дудзіцкага, А. Бярозкі, апавяданні К. Рамановіча, Г. Нямігі, А. Галіны, А. Саковіч, урывак з рамана К. Акулы «Гараватка». Багаты і раздзел перакладаў, дзе змешчаны «Затонуты звон» Г. Гаўптмана, творы Ю. Лабадоўскага, Л. Палтавы, А. Міцкевіча, Я. Славутыча, раздзел успамінаў — у ім надрукаваны ўспаміны С. Кайрыса і Ю. Вітан-Дубейкаўскай пра Цётку, І. Рытар—пра Янку Купалу, А. Эссона і Ф. Кушаля —пра Алеся Гаруна, К. Вітан—пра І. Луцкевіча. Значную цікавасць уяўляе і раздзел крытыкі, артыкулы пра вядомых дзеячаў беларускай літаратуры і культуры (Ф. Скарыну, П. Багрыма, В. Адважнага, М. Равенскага і інш.). Але часопіс так і не стаў трыбунай усіх лепшых літаратараў беларускага замежжа. Групавыя палітычныя інтарэсы бралі верх над агульнымі, літаратурнымі. Толькі адзін раз часопіс (№ 5—6) надрукаваў вершы беларускіх савецкіх паэтаў пад назвай «З вершаў «Полымя» — творы М. Танка, П. Панчанкі, К. Кірэенкі, У. Караткевіча, С. Дзяргая.

Не заняў таго месца, на якое прэтэндаваў, звяртаючыся з «Заклікам да ўсіх беларускіх паэтаў, празаікаў і літаратурнага маладняка на чужыне» і «ворган літаратурнае Сустані «Баявая Ўскалось», часопіс «Баявая Ўскалось», выданне якога аднавіў (пачата яно было яшчэ ў 1937 г. у Заходняй Беларусі) у Канадзе С. Хмара (Сіняк). У № 6 за 1962 г. часопіс пісаў, што «літаратурная нашая Сустань — адзіная арганізацыя пісьменнікаў на чужыне, якая патрапіла ўтрымацца на паверхні і няспынна, верна нясці наш беларускі сцяг рэвалюцыйнай, народніцкай дэмакратыі, з нязломнай верай у лепшае Заўтра беларускага народа і ў трыумф Праўды». Гучна сказана! На самай жа справе часопіс адыграў у згуртаванні літаратурных сіл нязначную ролю. Ды і тое, што на яго старонках было надрукавана (менавіта надрукавана, а не перадрукавана) не пакінула больш-менш прыкметнага следу ў літаратуры беларускай эміграцыі, не гаворачы ўжо наогул пра літаратуру ў вялікім сэнсе гэтага слова. Занадта сціплы аб'ём гэтага часопіса, занадта нізкі ўзровень яго рэдагавання, ды і літаратурнай моладзі, на якую разлічвалі яго арганізатары, як выявілася, на чужыне няма, не нараджаецца.

Ю. Віцьбіч, пераехаўшы ў ЗША і займеўшы сталае супрацоўніцтва з адной з самых уплывовых і папулярных газет рускага замежжа «Новое русское слово» (змясціў на яе старонках больш за 200 сваіх артыкулаў і нарысаў), перастаў выпускаць «Шыпшыну», якая, дарэчы, побач з творамі пісьменнікаў-эмігрантаў шырока друкавала творы беларускіх савецкіх пісьменнікаў — Я. Купалы, К. Чорнага, М. Зарэцкага, У. Дубоўкі, М. Лужаніна, Я. Пушчы і інш., парваў усякія адносіны з БЦР і БЦРаўцамі, не прымкнуў ён і да БНР і БНРаўцаў — застаўся як бы ўбаку ад усіх, па-за групоўкамі. У лісце да Я. Юхнаўца (2.8.1954) ён пісаў: «Ніхто не мае права заганяць літаратараў пугай у свой не гэтулькі літаратурны, колькі палітычны закутак». («Летапіс...», № 65, 1989). У другім лісце да рэдактара «Баявой Ўскалосі» С. Хмары (30.7.54) ён прызнаваўся, што «мой адыход ад сучаснай БЦР... з'явіўся зусім дабраахвотным» (Тамсама). А ў лісце да др. Грынкевіча (17.IV.1961) ёсць такія словы: «Вырашыў ісці і надалей як літаратар і журналіст (палітык) сваім апрычоным незалежным шляхам. Не збіраюся абліваць памыямі нікога з БЦРаўцаў або БНРаўцаў ці Сяргея Хмару. Тым болей не збіраюся плявузгаць на святых, аплёўваючы такім чынам душы сваіх суродзічаў на чужыне». («Летапіс...», № 60, 1988).

Палітычныя, кан'юнктурныя меркаванні, а не літаратурныя, былі на першым плане і ў іншых пачынаннях. Відаць, таму гэтак рэзка, крытычна сустрэў Ю. Віцьбіч і выхад у свет вялікага альманаха «Ля чужых берагоў», які выдала газета «Бацькаўшчына» (Мюнхен, 1955) і ў які былі ўключаны творы многіх беларускіх эміграцыйных паэтаў і пісьменнікаў.

«Можа ўжо бачылі апошні «опус» «Бацькаўшчыны», — пісаў ён у лісце да таго самага С. Хмары (11.2.56), — альманах «Ля чужых берагоў»? Я ў стане цалкам абстрагавацца ад таго добрага, што прысвечана «Шыпшыне» і мне асабіста ў прадмове Ст. Станкевіча да яго. Мне здаецца, што гэты альманах з'яўляецца крывым люстрам нашае эміграцыйнае беларускае літаратуры. Паводле прадмовы меліся толькі «Сакавік» і «Шыпшына», ёсць — «Конадні» і літаратурныя старонкі «Бацькаўшчыны». Няпраўда, аж занадта схематычна! А дзе «Баявая Ускалось», «Пагоня» Алеся Салаўя, «Моладзь», «Наперад», «Шляхам жыцця» і г. д. Можна, напрыклад, не любіць «Шляхам жыцця», але разам з тым яны далі шмат арыгінальнага, літаратурнага, а ў тым ліку ўспаміны Міколы Шылы аб паасобных пісьменніках. Увогуле не было і няма ні аднаго выдання на чужыне (Ад «Ведамкаў» да «Аб'яднання»), якія ў большай ці меншай ступені не зпрычыніліся да развою нашае эміграцыйнае літаратуры...

Акрамя прадмовы здзіўляе таксама ўступ — Ад выдавецтва, які з'яўляецца ўзорам езуісцкага падыходу да рэчаіснасці. Шмат нашых добрых літаратараў не знайшлі месца ў альманаху, але за тое Арсеннева займае ў ім без малога 20% ягонае плошчы. Дарэчы — гэтак узняты ў прадмове Віцьбіч — без малага 3%. Няма раўнавагі паміж паэзіяй (171 стар.) і прозай — 44 стар. [...]

На першы погляд здаецца, што трэба вітаць альфабэтны парадак размеркавання ў альманаху аўтараў — гэта задаволіць дробныя сяднёўскія амбіцыі. Аднак тут нешта зусім іншае. Паэзію распачынае Арсеннева, — прозу Бірыч. На гэты раз апошні не Юстапчык, бо не хоча лезці аж пад Псыча. А каб, напрыклад, Віцьбіч ды быў Біцьбіч, дык Бірыч тады стаўся б Антонам Адамовічам.

Здзіўляе таксама адзначэнне ў спецыфічным літаратурным выданні, у біяграфіях паасобных аўтараў, колькі год і дзе адбываў зняволенне. Гэта ж не часапіс былых савецкіх паліткатаржанаў... Потым — хіба за тое, што яна паэтка, трапіла ў Казахстан Арсеннева? Не! Як паэтку яе праз кароткі час (3—4 тыдні) сам Панамарэнка звярнуў адтуль назад на Бацькаўшчыну, а туды яе саслалі, як жонку польскага афіцэра. Большасць аўтараў гэтага альманаху трапілі ў савецкую ссылку не за тое, што яны літаратары — іх абвінавацілі ў прыналежнасці да студэнцкіх нацдэмаўскіх гурткоў. І, нарэшце, калі даць веры, дык найбольшым ад усіх пакутнікам ёсць Адамовіч — Бірыч — Юстапчык — Забранскі — Склют — Недасек — Віж — Альгердзіч і г. д., і г. д. Аднак ён сам красамоўна і вычарпальна характарызуе прычыны ягонага арышту — як «нацдэм». Двухкоссі цалкам на месцы.

Заканчэнне. Пачатак у мінулым нумары.

